# Зьмест.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопіс.

№ 2. Люты 1925 г. № 2.



## Агроном у перабудове сельскае гаспадаркі.

Нядаўна адбыўшыся Ўсебеларускі зьезд зямельных працаўнікоў выразна адзначыў, якое шырокае поле дзейнасьці стаіць цяпер перад кожным агрономам. Сотні і тысячы сялянскіх гаспадарак пераживаюць грунтоўную ломку старых форм гаспадараваньня, бо ад цераспалосіцы і трохпольля ўзята ўсё.

Дзе можна сялянскі папар займалі выкай, канюшынай, пашыралі плошчу бульбы, карысталіся лубінам і г. д. Але гэтага мала. Запатрэбаваньні сям'і і рынку растуць і становяцца больш шырокімі. Рынак пытае насеньне канюшыны, лубіну, розных траў і гародніны і ўсе продукты жывёлагадоўлі.

Просты і часта мудры сялянскі розум наколькі мажліва ўсё падлічвае, каб паўней здавальняць і запатрэбаваньні свае гаспадаркі. Але і гэта ня ўсё. Пытаньне стаіць шырэй і ў тым, што большасьць нашых гаспадарак апрача зямельнае нястачы, якая ў значнай меры ўсё-ж такі будзе вырашана сучаснай зямельнай рэвалюцыяй, пераживаюць яшчэ і організацыйнае бязладзьдзе. Гэта тлумачым так, што значным тормазам у разьвітку нашае сельскае гаспадаркі зьяўляюцца пытаньні організацыі. Напрыклад, разумная пабудова палявой гаспадаркі, выбар і культура рыначных расьлін, пашырэньне кораняплодаў і зярновых бабовых замест збожжавых расьлін (жыта, аўса і г. д.), організацыя малочнае гаспадаркі, сбыту і пераапрацоўкі продуктаў зьяўляюцца патрэбнымі ў першую чаргу.

Організацыя-ж розных галін сельскае гаспадаркі зьявіцца першым крокам да яе рацыоналізацыі, а гэта астатняя стане поруч з далейшай інтэнсіфікацыяй, якая адна толькі і можа даваць месца нарастаючым рабочым рукам пры больш высокай іх аплаце.

А між тым, пабудаваць гэтыя галіны ці наладзіць паміж імі добрую сувязь—гаспадар часта ня можа. Тут селяніну ахапіць усё трудна. Патрэбен агроном, а іх мала (адзін два на раён). Павялічэньне-ж ліку агрономаў дзяржавай прыкладам да аднаго на сельсавет, адбудзецца ня так хутка па чыста грашовых мотывах.

Загэтым, было-б значным крокам наперад, калі-б цяпер нашы коопэрацыйныя організацыі, сельсаветы, а то і вёскі за свой кошт пачалі-б запрашаць да сябе на працу агрономаў дзеля найбольш цікавай і даходнай галіны сельскае гаспадаркі (напрыклад, агронома-жывёлавода, садавода-гародніка, організатара, культуртэхніка і г. д.). Гэта дало-б магчымасьць вёсцы ці сельсавету ў поўнай меры разумна пабудаваць сваю гаспадарку і хутка павялічыць, калі ня ўдвоіць, яе даходнасьць.

У другіх старонках прыватны агроном ужо даўно стаў натуральным зьявішчам; гэта-ж праводзіцца цяпер шмат якімі вёскамі і сельсаветамі ў Маскоўскай губ.

Выдаткі па ўтрыманьню агронома заўсёды зьвернуцца ўдвойчы, а то і больш.

Яшчэ і па другіх прычынах сучасны момант зьяўляецца найбольш спрыяючым працы агронома. Праца сярод сялян па экономічнай і культурнай адбудове вёскі зьяўляецца чарговым пытаньнем усіх колаў савецкае грамадзянскае думкі.

«Праца на вёсцы, тварам да вёскі!» стала лёзунгам бягучага дня. Усе вагромістыя сілы, якія накіроўваюцца цяпер у вёску, толькі ўзбагачваюць працу агронома. Пры поўным разуменьні шляхоў і мэтодаў перабудовы сельскае гаспадаркі і выразнасьці стаячых перад ёю задач, вынікі могуць быць значнымі.

Пры гэтым будзем памятаць, што сельская гаспадарка Беларусі знаходзіцца ў асабістых і спрыяючых умовах: яна знаходзіцца ў раёне трывалых і ўзрастаючых ураджаяў, раёне пашыранай культуры бульбы, высьпяваючага лубіну і сэрадэлі, раёне мажліва шырокага карыстаньня на ўгнаеньне торфу, вапны і фосфарыту. А блізасьць Беларусі да шырокіх рынкаў збыту с.-г. продуктаў яшчэ больш павялічвае зацікаўленасьць нашай сельскай гаспадаркай і па-за межамі Савецкага Саюзу.

**Сьц. Тупяневіч.**



# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Чаму патрэбна ачыстка і сартаваньне насеньня.

Аднэй з самых патрэбных прац, якую гаспадар павінен выпаўніць у зімовы час, ёсьць падрыхтоўка насеньня дзеля засеў поля вясною.

Вядома, што добры прыплод скаціны, коняй, сьвіньней, птушак і г. д. можа быць толькі ад добрых бацькоў. Тое ж мы бачым і з гаспадарчымі расьлінамі. Добрае буйное насеньне дае заўсёды і добры ўраджай зярнят. Аб гэтым сьведчаць і прыказкі: „Што пасееш, тое й пажнеш“ або „Яблыка ад яблыні недалёка коціцца“ і шмат іншых. Але на справе гаспадары звычайна з году ў год сеюць нячыстае насеньне і пры гэтым зусім не разумеюць, наколькі яны шкодзяць сабе. Каб яскрава ўявіць усё гэта, дзеля прыкладу возьмем адзін пуд засьмечанага насеньня і падзелім яго на сарнякі, недасьпеўшае і бітае зярно і добрае насеньне, якое падзелім на буйное, сярэдняе і дробнае.

Пасьля гэтага пабачым, што адзін пуд насеньня складаецца:

з 4- 5 ф. сарнякоў,<br>
6- 7 „ недасьпеўшых і бітых зярнят і<br>
28-30 „ буйных, сярэдніх і дробных зярнят.

Пры засеву поля такім насеньнем і пры высеву 13 пуд. на дзесяціну на долю сарнякоў прыпадае каля . . 1 пуд. 20 ф.,<br>
на няўсходжыя і бітыя зярнята . . . . 2 пуд. —<br>
і на добрае (буйное, сярэдняе і дробнае) насеньне. . 9 пуд. 20 ф.

Высевам 1 п. 20 ф. зярнят сарнякоў, гэта знача, шкодных сьмяцьцёвых расьлін сялянскія палі нязвычайна псуюцца. Профэсар Вільямс лічыць, што на 1-й дзесяціне ў чатырохвяршковым пласту зямлі знаходзіцца зярнят сарнякоў каля 300 пудоў.

Трэба памятаць, што шкода, якая ўчыняецца сарнякамі бывае вельмі вялікай, а барацьба з імі цяжкай. Насеньне сарнякоў можа ляжаць у зямлі часта больш 10 год і ня траціць свае ўсходжасьці. У час росту сарнякі адбіраюць у збожжа пажыўныя сокі, вільгаць, прыценьваюць і глушаць яго. Навогул-жа, сарнякі зніжаюць ураджаі.

І яшчэ адно, дзякуючы сарняком гадуюцца розныя шкодныя мошкі, жучкі і матылькі, якія кладуць яйкі на сарнякох. Пры такім становішчы і з добрага насеньня могуць быць слабыя расьлінкі няздольныя да барацьбы.

Пры сартаваньні насеньня гаспадар можа мець гэтакую карысьць.

1) Аддзяліўшы насеньне сарнякоў, некаторыя з іх можна скарыстаць дзеля корму скаціны. Гэтак-жа скарыстоўваецца і ўсё недасьпеўшае і бітае зярно.

2) Сартаваньнем насеньне падзяляецца на гатункі, з якіх дзеля засеву выбіраецца найлепшы.

3) Сартаваньне і ачыстка насеньня захоўвае поле ад сарнякоў і палягчае яго апрацоўку.

4) Засеў сартаваным насеньнем дае дужыя і здаровыя ўсходы, ад чаго і ўраджаі павялічваюцца з дзесяціны пудоў на 20 і больш.

5) Сартаваньне дапамагае паляпшэньню мясцовых сартоў насеньня, робіць іх больш стойкімі адносна клімату і высокай ураджайнасьці.

6) Ачыстка насеньня дапамагае барацьбе з living рознымі энтомолёгічнымі шкоднікамі, як мошкі, вусені розных матылькоў і г. д., якія гадуюцца галоўным чынам на сарняках.

7) Наадварот, без сартаваньня і добрае насеньне траціць сваю ранейшую высокую якасьць.

Дзеля ачысткі насеньня ніякіх страт не патрэбна. Машыны дзеля ачысткі і сартаваньня будуць прывозіцца ў кожную вёску дзён на 6-7.

Ачыстка і сартаваньне насеньня робіцца проста, але зьяўляецца добрым спосабам да павялічэньня ўраджаю.

**М. Уліцін.**

---

## Машыны і ачыстка насеньня.

Зярната збожжа разнастайны па абмеру і вазе. Каб атрымаць больш-менш аднолькавы матэр'ял і вылучыць яго ад мякіны і другіх прымешак, неабходна ачыстка абмалочанага збожжа.

Адрозьніваюць ачыстку насеньня ручную (сялянскі спосаб) і машынную. Кожны з гэтых спосабаў мае свае асаблівасьці.

Ручны спосаб ачысткі насеньня сустракаецца ў нашых вёсках. Сэнс яго ў тым, што селянін вымалачаны ворах кідае лапатай ад кучы на ток. Усе лёгкія прымешкі падаюць бліжэй, а зярнята і больш важкія прымешкі падаюць далей. Спосаб надта няпэўны, бо немагчыма дасягнуць належнай чыстаты насеньня і, акром таго, надта марудны. Каб добра ачысьціць насеньне патрэбны машыны.

Найбольш простай машынай дзеля ачысткі насеньня зьяўляецца „Горка“. Гэта машына мае кош, куды сыплюць збожжа, а зьнізу каша нахілам прыладжаны дошкі, паверх якіх наклеена сукно. Зярняты сыплюцца з каша на дошкі. Больш важкія і круглыя адкочваюцца далей, а лёгкія і шурпавыя затрымоўваюцца сукном і падаюць каля дошкі. Спосаб гэты таксама няпоўны і марудны. Крыху палепшаныя машыны гэтага тыпу пристасаваны да ачысткі насеньня буракоў.



Мал. № 3. Сартоўка Рэбера.



Мал. № 5. Трыер.



Мал. № 4. Сартоўка Рэбера (надворны выгляд).



Мал. № 2. Арфа Рэбера.



Мал. № 6.
Зьмейка. Адрозьніваць выку ад збожжа.

Найлепшымі машынамі ачысткі насеньня будуць арфы, сартоўкі і трыеры. Прычым, надта карысна насеннае збожжа перапушчаць праз арфу, сартоўку і трыер.

Арфа служыць дзеля ачысткі зярнят ад прымешак, як мякіна салома, пясок і г. д. *Мал. № 2.*

Арфа мае кош, куды сыплюць збожжа. Зьнізу каша ёсьць засланка дзеля рэгуляваньня посыпу, і сіты лікам ад 3 да 5. Сіты арфы бываюць тканыя з дроту, плеценыя і прабіўныя. Форма дзірак прадаўгаватая, раўнабочная або круглая. Ззаду арфы ёсьць барабан, дзе зьмешчаюцца крыльля ў ліку 5-6 і ручка, якою прыводзяцца ў рухомасьць крыльлі і сіты. Адначасова спаўняецца дваякая праца—вылучэньне зярнят з мякіны і падсяваньне іх, дзе між іншым зярнята чысьцяцца і сартуюцца па велічыне. Каб у працы быў пасьпех і ачыстка адпавядала прызначэньню, сіты ставяцца з рознымі па велічыне дзіркамі. Верхняе сіта падтрымоўвае ворах, які црадуваецца ветрам. Дзіркі ў гэтым сіту найбольшыя, чаму ўсе зярняты правальваюцца на другое сіта. Другое сіта мае ўжо меншыя дзіркі, але водлуг зярнят яшчэ вялікія, чаму яны таксама скора правальваюцца на трэцяе і чацьвертае сіты, дзе сартуюцца і йдуць у латакі. Пад сіта йдуць толькі зусім дробныя зярняты, сарнякі, мак, пясок і інш.

Вытворчасьць арфы хістаецца ад 20 да 50 пудоў чыстага збожжа. Найлепшымі арфамі зьяўляецца арфы бр. Рэбер і сялянскія.

### Сартаваньне насеньня па вазе.

Сьледам за арфай ідзе ветранка, дзе сартаваньне насеньня робіцца паветрам, гэта знача, па вазе. *Мал. № 3.*

Паветра ад крыльляў барабана адкідвае ўсе лёгкія зярняты (II сорт) далей, а больш важкія (I сорт) падаюць бліжэй. Загародка паміж гэтымі сартамі перастаўная. Калі яе паставіць бліжэй да барабана, толік насеньня першага спорту паменшыцца, але павялічыцца якасьць гатунку.

Гэты тып сартовак вынайдзен Вараксіным у 1650 годзе і, дзякуючы адпаведнасьці прызначэньню, мае пашыранае ўжываньне.

**Зьмейкі**. Ранейшыя машыны досыць добра чысьцяць насеньне збожжа, але дрэнна вылучаюць круглыя зярняты, як гарох, віка. Дзеля гэтага ёсьць асобныя машыны, так званыя, зьмейкі Багушэўскага, якія складаюцца з сьпіральнавыгнутых жалезных лістоў наўкола стаяка. Насыпаныя зьверху зярняты апушчаюцца ўніз, а круглыя (гарох, выка) разлятаюцца ў бакі. Работа зьмейкі здавальняючая. *Мал. № 6.*

Ёсьць яшчэ машыны, якія сартуюць зярно па форме і велічыні да тыпу такіх машын належыць трыер. *Мал. № 5.*

Трыер прадстаўляе сабою цыліндр, на ўнутраняй паверхні якога выціснуты ямачкі. Зярняты пападаюць у ямачкі і пры варочаньні цыліндра паднімаюцца ўверх. З сярэдзіны да паверхні цыліндра шчыльна прылягаюць аграбалкі. Кароткія зярняты хаваюцца ў ямачках і прахадзяць каля аграбалак. Пры далейшым абароце цылідру яны выпадаюць

з ямак у галоўны жолаб, па якім перасоўваюцца вінтом і высыпаюцца з цыліндра. Доўгія зярняты, пападаючы ў ямкі, таксама падымаюцца ўверх, але аграбалкамі скідаюцца назад. Цыліндр пастаўлены нахіла, чаму зярняты самі выкідаюцца з цііндра, але асобна ад круглых і кароткіх. Аддзяленьне зярнят трыерам можа быць зроблена дасканальна.

Сяляне могуць здабываць такія машыны праз аб'яднаньне ў машынныя таварыства (ня трацячы многа грошай, можна купіць добрую машыну). Кожную з памяненых машын можна дастаць у Цэнтраземскладу ў Менску або ў акруговых яго аддзяленьнях і на выплат.

**Х. Хатэнка.**

---

# Як сяляне в. Квасынічы (Случчына) завялі шматпольле.

Вёска Квасынічы Слуцкага раёну і агругі, як-бы складаецца з трох частак, але цікава, што сяляне захавалі яшчэ аднолькавы севазварот. Зямля ў нашай вёсцы сугліністая і месцамі супескавая. Сяляне займаюцца выключна земляробствам і другіх заняткаў ня ведаюць. Плошча ўсёй зямлі складае каля 450 дзесяцін, калі лічыць і 80 дзесяцін прырэзкі 1922 г. Усяго жыхарства лічыцца ў нас каля 320 чалавек. Сярэднія гаспадаркі маюць 5-6 дзес., а самыя заможныя, якіх лічыцца тры, маюць 10-11 дзесяцін. Сярэднія гаспадаркі складаюць каля 75 проц. Пахаць нашае вёскі дзеліцца на тры палеткі, а ў кожным палетку маецца па дзьве нівы. Раней, гадоў 10 таму назад сяляне мелі тыповы трохпольны севазварот. Пры гэтай сыстэме трэцьця частка зямлі пуставала, застаючыся пад, так званым, сялянскім папарам. Гэта шкодна адбівалася на гаспадарцы, бо да гэтага трэба дадаць, што сумежныя з папарам шнуры сенажаці йшлі ў папас. Такім чынам, пуставала больш, як трэцьця частка карыснай плошчы.

Дзеля здабыцьця жывёле кармоў сяляне павінны былі езьдзіць за 40 верст на „балота" і там запасаць на зіму сена. Але далей само жыцьцё заставіла сялян прыйсьці да думкі палепшыць сваю палявую гаспадарку. Пачалі сяляне засяваць папар выкай, гарохам і канюшынай. Практыка сьведчыла, што ад гэтага вялікая карысьць. Цяпер-жа сяляне засяваюць ужо ўсю плошчу пахаці, і сялянскі папар стаў занятым. Пры засеву папары сяляне галоўную ўвагу зьвярнулі на тыя культуры, якія даюць вялікую карысьць, як бульба, канюшына і выка. Канюшынай займаюць цяпер шостую частку ўсяе пахаці, ці палову палетка (адну ніву). Бульбу раней сеялі толькі дзеля сем'і і сьвіньней, а цяпер-жа разьлічваюць і на корм жывёле. Бульба таксама займае поўпалетка (адну ніву). На ўраджай бульбы і канюшыны сяляне пакладаюць вялікія надзеі. А ўраджаі гэтыя даволі высокія. Гэтак, канюшыны за адзін укос зьбіраецца пудоў 250-300 на дзесяціну, а бульбы каля 800 пудоў. Цяпер сяляне ўжо пакінулі езьдзіць на „балота" за сенам, бо корму для жывёлы хапае ў сваёй гаспадарцы. Гною ў гаспадароў зьбіраецца шмат і ёсьць поўная магчымасьць угнойваць поле пад жыта, бульбу і ячмень. Жыта пасьля аднагадовай канюшыны расьце добра і ўра-

джай з дзесяціны трымаецца каля 60 пудоў. Другіх культур, як буракі, морква ў полі сеецца мала, а больш у гародах. Канюшына падсяецца пад яравыя—ячмень і авёс. Такім чынам, можна сказаць, што нашы сяляне ў палявой гаспадарцы быццам перашлі да шасьціпольля. Прывожу табліцу чаргаваньня с.-г. расьлін за 6 год.

| Палеткі | нівы | 1919 | 1920 | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 1-ая | Заняты папар *) | Жыта | Яр | Канюшына | Жыта | Бульба |
| | 2-я | Канюшына | Жыта | Бульба | Заняты папар | Жыта | Яр |
| II | 1а | Бульба | Заняты папар | Жыта | Яр | Канюшына | Жыта |
| | 2-ая | Яр | Канюшына | Жыта | Бульба | Заняты папар | Жыта |
| III | 1а | Жыта | Бульба | Заняты папар | Жыта | Яр. | Канюшына |
| | 2-ая | Жыта | Яр | Канюшына | Жыта | Бульба | Заняты папар |

*) *Увага.* Заняты папар: гарох, выка пшано, лён, грэчка, мак.

З табліцы бачым палепшанае трохпольле з шасьцігадовым зваротам расьлін. Тут жыта сеецца на трэці год, а ўсе іншыя расьліны на шосты. Такая сыстэма палепшанага трохпольля дае магчымасьць падняць ураджаі і забясьпечыць гаспадарку харчамі. Чарговым крокам зьяўляецца пабудова правіловага шасьціпольля. Летам жывёла пасецца на выгане, а дома падкормліваецца зялёнаю травою ці канюшынаю. Толькі сьвіньней да жніва трымаюць у хлявох. Зімою-жа жывёла апрача саломы корміцца канюшынай і бульбай. Жывёла навогул стала значна лепшай. Адмоўным бокам дзеля нашай вёскі зьяўляюцца непалепшаныя сенажаці. Толькі ў гэтым годзе, дзякуючы культурным працаўнікам вёскі, сяляне згадзіліся ў будучую вясну асушыць адно балота. Гэтак-жа ў бягучым годзе сяляне зьвярнулі увагу на ачыстку насеньня. Машынамі агровучастку было ачышчана ўсё насеньне, як яравога, так і зімовага збожжа.

Сельска-гаспадарчая культурнасьць нашай вёскі адзначана і Савецкай уладаю. Увосень мінулага году наша вёска атрымала прэмію ў 15 проц. скідкі ад сельска-гаспадарчага падатку.

**Т. Бародзіч.**

# Гутарка аб шматпольлі.

Севазварот зьяўляецца галоўнай часткай палявое гаспадаркі. Каб правілова і карысна пабудаваць усю гаспадарку, трэба некалькі раз падлічыць, што карысна і што не; толькі пасьля ўжо канчаткова вырашыць, што і як трэба рабіць для будучае гаспадаркі. Як кажа прыказка: „7 раз адмер, а раз адрэж“.

Зараз мы разьбяром толькі адно пытаньне, калі і чаму трэба разважаць аб шматпольлі, бо пэўна ёсьць і такія гаспадары, якія аб гэтым не клапаціліся. Для іх галоўным чынам я і пішу.

Увесь ураджай ужо сабраны з поля, абмалочаны і ссыпаны ў засекі. Цэлы год гаспадар працаваў ад ранку да вечара, а як сабраў усё да кучы, дык няма на што і глядзець. *Чаму гэта так?*

Многія кажуць—што не хапае зямелькі, што беларускі селянін вельмі цесна жыве і г. д. Праўда, на Беларусі па падліку профэсара Аганоўскага ў 1923 г. на 100 дзесяцін сел.-гасп. плошчы прыходзілася 71 душа вясковага жыхарства, што знача на адну душу 1,4 дзесяціны. Але калі мы паглядзім на суседнія краіны, дык пабачым, што ў іх на адну душу вясковага жыхарства прыходзіцца зямлі—ў Нямеччыне 1,95 гектара [1]) ў Беларусі 1,85 гкт., у Польшчы 1,20. А між тым, там багацей жывуць за нас.

І справа вельмі простая. Гаспадары памянёных краін атрымоўвалі да вайны вось якія ўраджаі з дзесяціны пахаці:

| Краіны | Жыта пуд. | Пшаніцы пуд. | Аўса пуд. | Ячменю пуд. | Бульбы пуд. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бельгія . . . | 147 | 163 | 158 | 180 | 1128 |
| Нямеччына . . . | 118 | 142 | 125 | 136 | 899 |
| Беларусь . . . | 52 | 41 | 51 | 55 | 477 |

Гэта сярэднія лічбы за пяць год (1910 па 1914 г.) па цэлым краінам, а, знача, ёсьць ураджаі і яшчэ большыя. Цяпер патрэбна кожнаму гаспадару ўзяць аловак і паперу і пачаць падлічваць, колькі-ж уласная гаспадарка дае ўраджаю на дзесяціну. Зрабіўшы гэты падлік мажліва параўнаць, колькі чаго не хапае паводле зарубежных гаспадароў. Разам з тым мажліва падлічыць і другое—колькі капеек у дзень заплаціў ураджай за ўсю гаспадарчую працу. Каб лягчэй было параўнаць лічбы ўраджаяў закардонных краін з нашымі, дадаю сярэднія лічбы ўраджаю па БССР у даваенны і рэволюцыйны час.

| Культуры. | Магілеўшчына | | Меншчына | | Віцебшчына | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1911-15 г. | 1920-22 г. | 1911-15 г. | 1920-22 г. | 1911-15 г. | 1920-22 г. |
| Жыта. . | 56,0 | 36,7 | 55,0 | 40,3 | 52,0 | 35,0 |
| Авёс . . | 53,0 | 42,6 | 53,0 | 35,0 | 45,0 | 34,0 |
| Ячмень . | 50,0 | 41,9 | 54,0 | 36,6 | 43,0 | 34,6 |
| Бульба . | 512 | 471 | 36 | 542 | 439 | 395 |

[1]) Гектар трохі менш адной дзесяціны.

З параўнаньня лічб бачым, што наш беларускі селянін шмат не дабіраў з дзесяціны і ў даваенны час, а цяпер дык і зусім кепска. Можна сказаць, што зарубежныя краіны маюць іншыя глебы, іншы клімат і г. д. Але добра вядома, што глебы Нямеччыны большай часткай былі такія-ж пясочкі, як і нашы. І 50 год назад нямецкі гаспадар вёў сваю гаспадарку так, як і мы ў сучасны момант, і зьбіраў ураджаі нябольш нашых. Каб зусім стала зразумелым, паглядзім яшчэ лічбы ўраджаяў нашых дасьледчых станцый, якія працуюць побач з намі на такіх жа глебах і аднолькавым клімату. Толькі яны працуюць так, як трэба па агрономічнай навуцэ. Сярэдні ўраджай жыта на працягу 8 гадоў Энгельгардтаўскай дасьледчай станцыі (Смаленская губэрня) па розных папарах быў гэткі:

| Пасьля якога папару. | Сярэдні ўраджай за 8 г. | |
|---|---|---|
| | Зярна пуд. | Саломы пуд. |
| Асеньні (чорны). . | 136 | 251 |
| Вясеньні (чысты) . | 120 | 230 |
| Заняты . . . . . | 102 | 194 |
| Позьні сялянскі. . | 106 | 200 |

Горацкая дасьледчая станцыя:

| Які папар | Ураджай жыта за 1923 г. | |
|---|---|---|
| | Зярна пуд. | Саломы пуд. |
| Позьні сялянскі. . . . | 62 | 127 |
| Заняты выкай з аўсом . | 106 | 230 |
| „ лёнам . . . . | 119 | 263 |
| „ бульбай . . . | 121 | 238 |
| Раньні чысты . . . . | 134 | 206 |

Ураджай аўса ў 1923 годзе:

Без угнаеньня . . . . . . . . . 67 пуд. зярна
Па гною . . . . . . . . . . . 124 „ „

Ураджай бульбы ў 1923 годзе:

Без угнаеньня па заворанай выкава-аўсянай мешаніне . . . . . . . . . . 806 п.
Па гною . . . . . . . . . . . . . . 1197 п.

Ураджай канюшыны ў 1923 годзе:

Пасеяна ў 1922 годзе па жыту бяз гною—дала сена 220 пуд.

Па жыту, якое было ўгноена . . . . 274 „

Новазыбкаўская дасьледчая станцыя Гомельскае губэрні (на пясках). Сярэднія лічбы ураджаю.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта без угнаеньня . . . . . . . . | | зярна— 34 | пуд. |
| „ пасьля заворанага лубіну . | 1200 | „ — 69 | „ |
| „ пасьля „ „ . | 2400 | „ —102 | „ |
| Грэчка: без угнаеньня . . . . | | „ 17 | „ |
| Заворана лубіну . . . . . . . . | 1200 | „ — 69 | „ |
| „ . . . . . . . . . . . | 2400 | „ — 98 | „ |
| „ . . . . . . . . . . . | 3600 | „ —144 | „ |
| Бульба: без угнаеньня . . . . | | „ —268 | „ |
| „ заворана лубіну . . . . | 1200 | „ —570 | „ |
| „ „ . . . . . . | 1400 | „ —757 | „ |
| „ „ . . . . . . | 3600 | „ —995 | „ |

Вось на гэтыя лічбы трэба нам глядзець і з імі раўнавацца. Гэта ня выдумка, іх некаторыя сяляне пачынаюць атрымоўваць самі пры шматпольным севазвароту і палепшанай апрацоўцы глебы. Мой бацька ў Магілеўскай акрузе ў мінулым годзе на плошчы паказальнага поля (4 дзесяціны) пры васьміпалёвым севазвароту з дзялянкі ў 800 кв. с. па чорнаму папару атрымаў жыта 47 пудоў, што, пры пералічэньні на адну дзесяціну дасьць 141 пуд. Канюшына першага скосу з поўдзесяціны дала 200 пудоў сена, знача 400 пудоў з дзесяціны. Шацілаўскі авёс у гэтым годзе даў 120 пудоў а ў 1921 годзе ўраджай *яго быў 175 пудоў* з дзесяціны. Штучнага ўгнаеньня ня ўжывалася. Праўда, гэта выпадковыя лічбы, але яны паказваюць, што пасунуць ураджай мажліва далёка наперад правільным вядзеньнем палявой гаспадаркі. Другі прыклад, гэта прысёлак латышоў ў 15 верстах ад г. Магілеву, у якім паслухаўшы агронома, гаспадар пасеяў адну дзесяціну канюшыны. У гэтым годзе ён накасіў 400 пудоў сена, а з атавы вымалаціў 10 пудоў насеньня. Праўда, у абодвух выпадках глебы добрыя, сугліністыя, але ёсьць спосабы і нашы пескавыя глебы паляпшаць. Мажліва дасягнуць вялікіх ураджаяў пры ўгнаненьні іх лубінам і правіловай апрацоўкай.

У чым жа справа? А справа ў тым, што большая частка сялянства вядзе сваю гаспадарку так, як вёў яе дзед і як вёў селянін у Нямеччыне 50 год назад, і не клапацяцца аб тым, як пачаць працаваць па новаму.

Калі-ж аб гэтым думаць? А вось зараз, узімку, калі сабраў усё збожжа, палічы і памяркуй сам, а то схадзі да агронома і пагутары з ім. Трэба загадзя ўсё разьмеркаваць і распрацаваць плян—што, дзе і як рабіць вясною і летам. Асабліва гэта патрэбна тым гаспадаром, якія пераходзяць на прысёлкі. Першую жменю жыта і канюшыны павінен пасеяць у тым месцы, дзе парае агроном.

### Вынікі.

1. Падлічы колькі чаго атрымаў за год упартай працы, які ўраджай з аднэй дзесяціны і як аплачваецца дзень працы ў гаспадарцы.

2. Параўнай ураджай сваёй гаспадаркі з ураджаямі зарубежных гаспадароў і дасьледчых станцый і падлічы колькі недахваткі на дзесяціну і на ўсю гаспадарку.

3. Рабіць падлікі патрэбна пачаць зараз, калі ёсьць час і калі лепш скарыстаць агронома.

(Працяг будзе)

**Агроном Лайкоў.**

---

# Якая карысьць ад зялёнага ўгнаеньня лубінам.

Калі параўнаць глебы Беларусі з глебамі Украіны, дык адразу кідаецца ў вочы, што нашы глебы маюць больш сьветлы колер. Чорная афарбоўка глебы Украіны залежыць ад прысутнасьці там перагною, які зьяўляецца пасьля гніеньня карэньняў расьлін, гною і г. д. Перагной, як цэмантам, зьлеплівае дробныя часткі глебы ў даволі трывалыя глыбкі.

Дзеля жыцьця расьлін патрэбны ў глебе ня толькі ў належным ліку пажыўныя матэр'і, але яшчэ вада і паветра. Аднначасовая прысутнасьць ў глебе вады і паветра дасягаецца тым, што глеба рыхліцца. Рыхлая глеба трымае ў сярэдзіне сваіх глыбак ваду, а пустотамі паміж глыбак праходзень у глебу паветра. Адгэтуль зразумела, што склад глебы з глыбак забясьпечвае яе паветрам і вадой і надта спрыяе ўзросту расьлін і, знача, ўраджайнасьці.

Глыбаваты склад глебы ўтвараецца перагноем. Вось чаму лепшым угнаеньнем глебы зьяўляецца гной. З гноем адначасова мы даём у глебу і пажыўныя матэр'і.

У нашых глебах перагной хутка раскладаецца на такія простыя матэр'і, якія распушчаюцца ў вадзе і йдуць на пажыву расьлін, а часткай вымываюцца вадой у глыбіню глебы. Дзякуючы гэтаму, перагной, або гной на нашых глебах патрэба класьці прыблізна праз 2-3 гады, а то й часьцей.

Адным-жа гноем гаспадару цяжка ўгнойваць у патрэбнай меры ўсё сваё поле. Патрэбны іншыя перагнойныя сродкі, з якіх найлепшым у нашым краю зьяўляецца лубінавае зялёнае ўгнаеньне. Гэта ўгнаеньне асабліва каштоўна на далёкіх палосках, куды з гноем вазіцца цяжка.

*Лубін расьце на самых малаўраджайных глебах* і, як кожная расьліна, жыве тымі пажыўнымі матэр'ямі, якія забірае сваімі карэньнямі ў зямлі і здабывае праз сваё лісьце з паветра. За лета на дзесяціне поля вырастае *да 3000 пудоў зялёнае масы.* Завораны лубін гніе ў глебе і такім чынам глеба ўзбагачваецца перагноем.

Такім чынам, на ўгнаеньне магчыма было-б заворваць і любы засеў, але лубін на зялёнае ўгнаеньне мае свой сэнс і зьяўляецца найбольш карыснай расьлінай.

Насеньне лубіну настолькі горкае, што яго ня есьць жывёла, чаму карыстацца лубінам можна толькі на зялёнае ўгнаеньне. Падругое, лубін, як і ўсе бабовыя расьліны, мае магчымасьць карыстацца азотам паветра. У паветры-ж нязьлічаны лік азоту, але спажываць яго непасрэдна могуць ня ўсе расьліны. Лубін жа робіць гэта пры дапамозе мікробаў, якія пасяляюцца на яго карэньні ў асабістых *бульбінках* (клубянькох). Дзякуючы гэтаму, лубін зьбірае на сабе шмат азоту, які пасьля перагніваньня лубіну йдзе ў пажыву новым расьлінам і замяняе ў глебе дарагое салітранае ўгнаеньне. (Азотматэр'я, якая даецца праз салітранае штучнае ўгнаеньне).

Лубін надта глыбока ўкараняецца ў глебу, дзякуючы чаму мае магчымасьць карыстацца тымі пажыўнымі матэр'ямі глебы, да якіх збожжавыя расьліны не дасягаюць. Гэтым лубін зварочвае культурнаму слою глебы тыя пажыўныя матэр'і, якія раней былі вымыты водамі ў глыбіню.

Акром усяго гэтага, на шчыльных сугліністых глебах лубін сваімі магутнымі карэньнямі разрыхляе глебу ў глыбокіх пластох, што для наступных засеўных расьлін мае вялікае значэньне.

На пескавых сыпучых глебах лубінавае ўгнаеньне зьяўляецца іншы раз лепшым ад гною. Справа ў тым, што гной на пяску хутка вымываецца ці выклікае выгараньне хлябоў.

З лубінам-жа іншая справа. Ён пачынае гніць праз тры тыдні пасьля заворкі. На працягу гэтага часу пасеяныя расьліны пасьпяваюць узыйсьці і пусьціць у зямлю свае карэньні. Зразумелая рэч, што тыя продукты, якія зьявяцца ў выніку гніеньня лубіну, будуць своечасна спажыты расьлінамі, і ніякай страты ўгнаеньня праз вымываньне ня будзе.

Такім чынам, лубін на зялёнае ўгнаеньне дае ў глебу перагной, пажыўныя матэр'і дзеля расьлін, узрыхляе шчыльна зьбітыя глебы і г. д. Дзякуючы ўсяму гэтаму лубін і зьяўляецца аднэй з найбольш карысных расьлін у сельскай гаспадарцы Беларусі.

**П. Рагаты.**

# Аб паляпшэньні сенажаці.

Кармовае пытаньне вырашаецца двума шляхамі. Першае—засевам на палёх кармовых траў, караняплодаў і клубняплодаў, а другое—паляпшэньнем натуральных сенажацяй.

У гэтым артыкуле зьвернем увагу на сенажаці і спосабы іх паляпшэньня.

Становішча нашых сенажацяй ў сучасны момант даволі дрэннае. У травастою значная перавага неспажыўных расьлін над добрымі. Забалочваньне пачалося ўсюды. Ураджай сена даходзяць месцамі да казначнай лічбы ў 30 пудоў з дзесяціны. Толькі заліўныя сенажаці даюць большы ўраджай, але з кожным годам і там ён зьніжаецца.

*Прычын дзеля зьніжэньня ўраджаю* сенажацяй даволі шмат. Глеба сенажаці з кожным годам цьвярдзее. Разрастаючыяся карэньні сплятаюцца ў цьвёрды лямец, які не прапушчае паветра. Цьвёрдая, зьдзяр-

нелая зямля дрэнна прапускае й ваду, ад чаго на сенажаці зьяўляецца вільгаць, спрыючая росту моху. Мох-жа й сам прыцягвае да сябе ваду і гэтым яшчэ больш павялічвае вільгаць. Так, памаленьку сенажаць забалачваецца, шчэзнуць лепшыя травы, а замест іх зьяўляецца мох, асака і інш.

Асабліва нішчацца сенажаці ад веснавога папасу скаціны. На сырой сенажаці скаціна выбівае цэлыя шляхі, робіць выбоіны—чаму зьяўляецца куп'ё. (Калі ёсьць мажлівасьць, то на сенажаць скаціну лепш зусім ня пускаць).

*Зьнішчэньне куп'я.* Калі на сенажаці ёсьць куп'ё, то яго трэба зьнішчыць. Гэта робіцца ў сялянскай гаспадарцы проста. Рана вясною, як зямля стане мягкай, куп'ё ўбіваецца ў зямлю дрэўлянай даўбешкай. Куп'ё можна і зрэзваць рыдлёўкаю. Далей, куп'ё трэба зложыць у кучку, каб яно добра перагніло, пасьля чаго яно робіцца добрым угнаеньнем дзеля тэй-жа сенажаці. Калі абшар сенажаці вялікі і куп'я многа, то дзеля яго зьнішчэньня ёсьць асобныя машыны-куп'ёзрэзы.



Борана дзеля зьнішчэньня моху на сенажаці.

*Асушка сенажаці.* На мокрых сенажацях трава расьце дрэнная. Такую сенажаць трэба асушыць, але асушку лепш рабіць асьцярожна, бо часта здараецца, што пасьля асушкі трава зусім не расьце—сенажаць перасушана. Асушку лявей рабіць пад кіраўніцтвам спэцыялістага, які скажа дзе і як выкапаць канаву.

*Апрацоўка глебы на сенажаці.* Адрозьніваюць паляпшэньне сенажаці *паверхоўнае*—калі робіцца толькі баранаваньне ці баранаваньне з угнаеньнем і абсеменяньнем, і *грунтоўнае*—калі робіцца ворыва, угнаеньне і засеў траў.

Баранаваньнем зьнішчаецца мох і разьмякчаецца дзярніна. Каб зьнішчыць мох, трэба баранаваць сенажаць рана вясною, калі зямля адтае толькі на 1 цаль. У той час коні ня гразнуць, а мох добра выдзіраецца. Далей, як зямля добра адтае і сенажаць падсохне, трэба баранаваць яшчэ раз, каб разьмякчыць дзярніну. Мох трэба сабраць і зьвесьці ў хлеў на подсьціл. Пасьля такай апрацоўкі ўносяць парашковае (штучнае) ўгнаеньне і сеюць мешаныя лугавыя травы.

Ворыва сенажаці робіцца дзеля рыхласьці зямлі і зьнішчэньня дзярніны. Праводзіцца яно на сухадолах, нізкіх і асушаных балотах. Першая ворыва лепш рабіць увосень затым, што за зіму дзярніна перамерзьне, разьмякне і некалькі перагніе. Вясною баранаваньнем рыхлюць асеньнюю пахаць. Ворыва робіцца плугам з вінтавою паліцай, якая надта добра перавёртвае дзярніну. Так апрацаваная сенажаць ужо зьяўляецца прыгатаванай дзеля засеву сельска-гаспадарчых расьлін.

*Культура сенажаці.* Першы год сеяць лугавыя травы ня раіцца. Пласты не пасьпеюць за зіму перапрэць, застаецца многа жывых карэньняў і зярнят сорных расьлін, якія потым глушаць засевы траў. Загэтым, першы год сеецца выка з аўсом, авёс ці лён. Пры засеву на сена на дсесяціну бярэцца 7-9 пудоў выкі і 5-6 пудоў аўса. Калі ворыва перапрэе, кладзецца ўгнаеньне.

На сенажаці сухадолаў добра класьці *гной, гнаёвую жыжку* (25-40 *бочак* на дзесяціну) і компост, на які сялянам патрэбна зьвярнуць увагу. *Компост можна гатаваць* у кожнай гаспадарцы з шляхавай гразі, куп'я з балота, сьмецьця, лісьцяў і інш. Усё гэта складаецца ў кучу да 3 аршын шырынёю і $1^1/_2$ арш. вышынёю (даўжыня кучы можа быць рознай). Кучу некалькі раз перакідаюць лапатай і паліваюць гнаёвай жыжкай. Вясною компост раскідаюць па сенажаці і забараноўваюць.

Вялікае значэньне мае *парашковае* (мінэральнае) ўгнаеньне сенажаці. Як прыклад карыснасьці парашковага ўгнаеньня, зьмяшчаем таблічку ўраджаяў сенажаці ў вёсцы Дукорка, Сьмілавічскага раёну:

| №№ дзялянак | Лік угнаеньня ў пудох на адну дзесяціну | Ураджай сена ў пудох на 1 дзесяціну | Лішка сена ў параўнаньні з контрольнай |
|---|---|---|---|
| 1 | Дзялянка без угнаеньня . . | 75 | — |
| 2 | 30 пудоў тамасшлаку і 17 п. калійнай 30 проц. солі . . | 450 | 375 |
| 3 | 30 пудоў тамасшлаку . . . | 240 | 165 |
| 4 | 17 пудоў калійнай 30% солі . | 225 | 150 |

Добрым угнаеньнем зьяўляецца і попел. Яго можна зьбіраць зімою, а вясной пасьля баранаваньня рассыпаць на сенажаці.

Кіслыя асушаныя сенажаці ўгнойваюцца вапнаю, якая зьнішчае кіслату і памагае перагніваньню карэньняў. Дзеля гэтага бярэцца нягашаная вапна і складаецца раньняй вясною на сенажаці малымі кучамі, якія закрываюцца зямлёю. Праз некалькі дзён вапна гасіцца і раскідаецца па сенажаці рыдлёўкай.

З другіх угнаеньняў можна браць на дзесяціну: салітры да 6 пудоў, тамасшлаку—24-30 пудоў, калійнай 30 проц. солі—12-18 п., каініту — 24-36 пудоў. Замест тамасшлаку можна браць касьцяную муку—24-36 пудоў ці фосфарыт—30-40 пудоў.

*Засеў траў.* Пасьля апрацоўкі і ўгнаеньня глебы сеножаці сеюць лугавыя травы розных сартоў нізовыя, павярхоўныя і сярэднія (ад такой мешаніны бываюць найлепшыя ўраджаі на працягу некалькіх год).

Пры грунтоўным паляпшэньні сенажаці траву сеюць падсевам пад другую расьліну, а пры павярхоўным—пасьля баранаваньня сенажаці.

Сеюць траву рана вясною. Выбар траў залежыць ад глебы, клімату і тых траў, якія часьцей сустракаюцца там у дзікім стане.

Дадаю прыкладныя мешаніны траў дзеля розных глеб згодна А. М. Зьмітрыева.

1. Пры засеву пасьля павярхоўнай апрацоўкі глебы значным баранаваньнем.

На 1 дзесяціну патрэбна:

| Назовы траў | На мінэральнай даволі перагнойнай і вільгатнай глебе | На сярэднявільгатнай сенажаці (сухадолах) |
|---|---|---|
| Канюшыны Швэцкае . . | 10 фунтаў | 5 фунтаў |
| Канюшыны чырвонае . . | — | 5 " |
| Цімафейкі . . . . . . | 10 " | 10 " |
| Аўсяніцы лугавое . . . | 15 " | 15 " |
| Яжы . . . . . . . | 10 " | — |
| Усяго . . . . | 45 фунтаў | 35 фунтаў |

2. Пры засеву пасьля грунтоўнай апрацоўкі глебы патрэбна на дзесяціну:

| Назовы траў | Мешаніна на 6-7 год | | Мешаніна на 8-10 і болей год | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Для сярэднявільгатных сенажацяй | Для вільгатных глеб і апрацаваных балот | Для супескавых і пескавых глеб заліўных сенажацяй | Для сярэднявільгатных сенажацяй | Для вільгатных сенажацяй і апрацаваных балот |
| Канюшыны чырвонай . | 10 ф. | 8 ф. | — | 4 ф. | 10 ф. |
| " Швэцкай . | 10 " | 12 " | 8 ф. | 5 " | 10 " |
| Дзятліны . . . . . | — | — | 2 " | 2 " | 3 " |
| Цімафейкі . . . . . | 20 " | 15 " | 12 " | 15 " | 15 " |
| Аўсяніцы лугавое . . | 15 " | 10 " | 12 " | 15 " | 15 " |
| " чырвонае . | — | — | — | — | 6 " |
| Лісахвосту . . . . | — | 10 " | 10 " | 8 " | 8 " |
| Кастра-бязвусага . . | 15 " | 15 " | 30 " | 25 " | 20 " |
| Пырніку паўзучага . | — | — | 15 " | — | — |
| Мятліцы лугавое . . | — | — | 8 " | 8 " | [illegible] " |
| Палявіцы белае . . | — | — | 3 " | 4 " | 3 " |
| Грабеньніку . . . . | 8 " | — | — | 6 " | — |
| Усяго . . . | 2 п. 8 ф. | 2 п. | 2 п. 20 ф. | 2 п. 20 ф. | 2 п. 6 ф. |

Такім чынам, калі пасьля паляпшэньня сенажаці мы будзем зьбіраць з дзесяціны па некалькі пудоў сена больш, то пры тых абшарах сенажаці, якія маюцца ў нас на Беларусі, гэта складзе значны прыбытак у сялянскай і народнай гаспадарцы Рэспублікі.

**П. Трус.**

# Аб садох на вёсцы.

Бадай кожны гаспадар у кожнай вёсцы заводзіць у сябе сад. Рэч то вельмі добрая; бяда толькі ў тым, што мала дзе можна знайсьці, каб гэты садок быў практычна заведзены.

Больш усяго селянін шкадуе пад сад месца. Ён уважае свой садок толькі, як прыемнасьць, як сваю выгаду, а ня думае таго, што з гэтага саду з часам можна мець і вялікі прыбытак.

Дзеля гэтага трэба інакш брацца за гэтую справу. Ня трэба шкадаваць месца пад сад; трэба садзіць толькі здольныя, добрыя прышчэпы ды выбіраць толькі з добрых гатункаў. Лішнія сукі трэба абразаць не шкадуючы, а маладым дрэўкам ня трэба даваць цьвісьці ды пладзіцца.

Часта можна бачыць, што дрэва пасаджана адно ад другога ня больш, як на 4 або 5 аршын; гэтак дрэўцы растуць, галіны іх будуць даставаць адна другую і нават сплятацца і тут ужо цяжка дапамагчы. Даходу з гэтага саду спадзявацца нельга, бо калі й будзе крыху фруктаў, дык ні добрага смаку, а ні ўзросту ня будзе. Хто хоча мець яблык пекны і шмат, няхай месца пад сад не шкадуе, няхай садзіць дрэва ад дрэва ня менш, як аршын 12. Толькі тады карэньням будзе досыць пажывы, і да ўсіх галін дрэва будзе доступ сонца. Толькі пры гэткіх варунках можна спадзявацца ад саду карысьці.

Садзіць трэба толькі здаровыя прышчэпы. Усім вядома, што з хворага ці-то чалавека, ці-то дрэва—карысьць малая, і хто завядзе ў сябе садок з хворых пакалечаных дрэў, той нажыве сабе клопату, а даходу ніколі ўжо мець ня будзе.

Якія гатункі заводзіць у садзе—таксама вельмі важна. Дагэтуль нашы сялянскія сады заводзіліся толькі дзеля сваёй выгады, ня думаючы аб тым, што гэтыя сады могуць даваць ладныя даходы.

Дзеля гэтага трэба падбіраць належныя гатункі. Наша беларуская глеба вельмі прыгодна для самага лепшага, важнейшага й патрэбнага на ўсіх цукеркавых фабрыках гатунку яблык—антонаўкі. Вось на гэты гатунак і трэба налегчы. Калі-б уся вёска загадавала ў сябе аднолькавы гатунак яблык, кожны купец з ахвотай купляў-бы гэтыя фрукты. З другіх гатункаў яблык больш салодкіх, бадай, ці ня лепшым будзе другі сорт—антонаўка Мароза. Гэта салодкая антонаўка, якую вывеў беларускі селянін Язэп Мароз на Віцебшчыне вакол Бачэйкава. Яна таксама трывалая, вялікая, але салодкая. Калі траціць месца, час і працу, то заводзіць трэба толькі пэўныя гатункі і гадаваць іх у сябе дома ці купляць у пэўных знаёмых месцах.

Зразумела, пасадзіўшы дрэва трэба яму й догляд даць. Ня менш, як праз гады тры, абкладаць гноем і то ня ў самага пня, як гэта часта робіцца ў нас, а вакол дрэва, як ідуць яго галіны. Сукі, якія растуць у сярэдзіну дрэва, або йдуць адзін другому накрыж і труцца, не шкадуючы трэба абразаць. Ад гэтага ўраджай яблык ня зьменьшыцца, а фрукты будуць лепшымі. Маладым прышчэпам ня трэба даваць цьвісьці. Пакідаюць адну-дзьве кветкі на мацнейшым суку дрэва, абы мець яблычка на спробу, а ўвесь другі цьвет абрываюць.

**У. Адамёнак.**

# ЖЫВЕЛАВОДЗТВА

## Наша жывёлагадоўля.

Прыродныя варункі нашага краю спрыяюць разьвіцьцю жывёлаводзтва, абсабліва малочнай скаціны і сьвіньней. У нас мажліва значнае пашырэньне культуры кармовых траў, кораняплодаў і г. д.

Разьвядзеньне сельска-гаспадарчай жывёлы дае нашай гаспадарцы амаль усё неабходнае: дзеля харчаваньня сям'і гаспадара—мяса, сала, масла; шэрсьць дзеля адзеньня, аўчыны на кажухі, рабочую сілу і г. д.

Харчы-ж для жывёлы покуль што складаюцца з саломы і сена, бульбы і мізэрнай астачы ад ўраджаю збожжа. Зусім зразумелая рэч, што колькасьць і якасьць сельска-гаспадарчай жывёлы залежыць ад таго, як і куды кіруецца сельская гаспадарка навогул, і чым яна лепш карыстаецца на рынку.

Пры трохпольлі скаціна заўсёды занядалая, бо няма харчоў, патрэбных на паляпшэньне гадоўлі. Цяпер дзеля ратунку сельскае гаспадаркі сяляне пасьпешна пачалі ўводзіць шматпольле, дзе будзе абавязкова культура канюшыны, кораняплодаў і бульбы. Гэтыя зьмены цягнуць за сабою і перамену ў жывёлагадоўлі. Дзеля скарыстаньня ўжо павялічанага ліку кармоў, патрэбна будзе павялічыць і колькасьць скаціны ў гаспадарцы; пры гэтым скаціна павінна быць продукцыйнай, каб зьвярнуць траты па здабываньню на полі сена і кораняплодаў. Гэта адно. А другое—рынак павялічвае цэны на мяса, сала, масла, сьвініну значна болей, чым на збожжа; чаму перавод часткі збожжа ў продукты жывёлаводзтва зусім зразумелы.

Гэты ўзрост цэн і попыту на продукты жывёлаводзтва ёсьць зьявішча ўсясьветнае.

Наша-ж беларуская гаспадарка і ў даваенныя часы карысталася рынкам, вывозячы каля 50 тысяч пудоў масла і каля 10 тысяч штук сьвіньней і рагатай скаціны. Адно пташніцтва давала каля 3 мільёнаў р.

З гэтага відаць, што перабудова жывёлагадоўлі робіцца абавязковай. Трэба стала і паступова рыхтавацца да разьвіцьця карысьнейшай галіны сельскае гаспадаркі. Трэба асабліва дбаць у першую чаргу аб пашырэньні і паляпшэньні малочнае гаспадаркі, ліку і якасьці сьвіньней.

Наша жывёлагадоўля павінна разьвівацца пры супрацоўніцтву людзей навукі і тэхнікі з шырокімі масамі сялянства. Трэба распаўсюджваць веды аб гадоўлі і ўтрыманьні жывёлы. Трэба ўвесь край пакрыць контрольнымі саюзамі, масладзельнымі арцелямі, таварыствамі гадоўлі, пераробкі і збыту продуктаў, злучнымі пунтамі і г. д. Усё гэта бязумоўна неабходныя крокі дзеля культурнае жывёлагадоўлі.

**П. Ластоўскі.**

# Як выкарміць сьвіньню.

Сьвіное сала і мяса зьяўляюцца адным з галоўных продуктаў народнага харчаваньня, як сьвежым, так і перарobленым на каўбасы розных гатункаў, шынкі, перапушчанае сала і інш.

Па сваёй здатнасьці перарабляць корм ў мяса, сьвіньня займае першае месца паміж іншай жывёлы. Падлічана, што сьвіньня на адзін фунт прыросту патрабуе корму амаль у 3 разы менш, чым карова. На падставе гэтага амэрыканцы лічуць сьвіньню найлепшай машынай, пры дапамозе якой магчыма некаштоўныя збожжавыя продукты перарабляць у продукты высокае вартасьці—мяса і сала.

Замежныя гаспадары ўжо даўно зьвярнулі належную увагу на сьвіньней і поруч з разьвіцьцём палявой гаспадаркі і жывёлаводзтва дасягнулі добрых вынікаў у справе гадоўлі і выкарму сьвіньней.

І ў нас, на Беларусі ў некаторых раёнех справу гадоўлі і выкарму сьвіньней можна зрабіць вельмі даходнай.

Адрозьньваюць выкармы сьвіньней 3 напрамкаў.

1) Мясны, мэтай якога зьяўляецца атрыманьне значнага ліку нятлустага, але сакавітага мяса. Такога выкарму сьвіньні мелі добры збыт на ангельскіх рынках. Дзеля выкарму патрэбны сьвіньні маладыя, узростам ад 3-4 месяцаў.

2) Мясасальны. Сьвіньней дзеля такага выкарму бяруць узростам 8-12 месяцаў. Пры гэтым выкарму мяса больш тлустае, чым пры мясным, апрача значнага ліку сала. Сьвіньні мясасальняга выкарму прадаваліся галоўным чынам у Нямеччыну.

3) Сальны выкарм найбольш ужываецца на абшарах СССР з мэтай атрыманьня галоўным чынам сала. Дзеля сальнага выкарму йдуць толькі сталыя сьвіньні,—культурныя ўзростам ад 1 $1/2$ да 2 год, а някультурныя—ад 2-х да 2$1/2$ год.

Пры мясным выкарму падсьвінкаў кормяць перш у волю зярнятамі і малочнымі адкідамі, бульбай і кораняплодамі. Калі яны дасягаюць жывой вагі 50 фунтаў, то пачынаюць карміць па нормам. Гэта знача, што дзеля правіловага кармленьня сьвіньней на мяса, патрэбна даваць харчоў у пераводзе на збожжа:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сьвіньні жывое вагі | | 50 ф., трэба даць | 2 $1/2$ ф. зярна. |
| „ „ „ | ад 50 да | 100 „ „ „ | 2 $1/2$—4 „ „ |
| „ „ „ | „ 100 „ | 150 „ „ „ | 4 —6 „ „ |
| „ „ „ | „ 150 „ | 200 „ „ „ | 6 —7 „ „ |
| „ „ „ | „ 200 „ | 250 „ „ „ | 7 —7 $1/2$ ф. „ |

Такі выкарм цягнецца 3-4 месяцы; пры гэтым лічуць, што з пачатку выкарму іншымі, нязбожжавымі кармамі можна даваць $1/3$ частку ўсіх кармаў, а пры канцы выкарму толькі $1/4$ частку можна даваць іншымі кармамі, як малочныя адкіды, бульба, буракі і г. д.

Трэба памятаць, што ў перакладзе на кармовыя адзінкі ўсе збожжавыя кармовыя сродкі, па пажыўнай вартасьці лічуцца роўнацэннымі; гэта знача, што 1 фунт зярнят, 1 фунт мукі, 1 фунт макухі, 1 фунт

добрых высевак раўняюцца аднэй кармовай адзінцы. Усе іншыя кармовыя сродкі па пажыўнай вартасьці прыстасоўваюцца да 1 фунта зярна ці аднэй кармовай адзінцы ў такім ліку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| бульбы . . . . | 4 фунты, | масьлёнкі . . . | 8 фунтаў, |
| буракоў . . . . | 8 „ | здыманага малака | 6 „ |
| зялёнае канюшыны | 8 „ | сыроваткі . . . | 12 „ |

Дзеля зразумеласьці складаньня кармовых норм возьмем падсьвінка прыкладам вагою 150 фунтаў. Такому падсьвінку згодна табліцы трэба даць 6 фунтаў зярна; прычым дзьве трэці нормы, ці 4 фунты трэба даць збожжавага корму (2 фун. мукі і 2 фун. ячменю), а на застаўшыяся два фунты зярна трэба даць іншага корму, напрыклад, 8 фунтаў бульбы, ці 8 фун. буракоў і 6 фун. здыманага малака, ці 4 фунты бульбы і 8 фун. рэзкі з зялёнае канюшыны.




Вызначэньне вагі сьвіньні абмерам.

Пільнуючыся правіл выкарму па нормам, гаспадар павінен усе-ж такі пільна сачыць; калі корм вылічан па нормам і хутка зьядаецца, то трэба прыбавіць, але ні ў якім разе корм не павінен заставацца ў карытах.

Пры выкарму сьвіньней неабходна іх важыць ня менш, як раз у два тыдні, але вагу сьвіньней магчыма вызнаць і абмерам.

У такім разе бяруць істужку падзеленую на цалі, і мераюць сьвіньню ўздоўж сьпіны ад патыліцы да пачатку хваста і другое—абхват у грудзёх ззаду пярэдніх ног.

Атрыманыя лічбы множаць адна на другую і здабытак пасьля дзелюць на 9, калі сьвіньня тлустая, на 10, калі сьвіньня па тлустасьці сярэдняя і на 11, калі сьвіньня худая. Атрыманая пасьля дзяленьня лічба і дасьць прыблізную вагу сьвіньні ў фунтах.

**Агрон. Цімашкоў.**

# Хваробы пасьля ацёлу ці жарабеньня.

Калі роды жывёлы былі нормальнымі, то дрэнных вынікаў амаль ня бывае і жывёла хутка папраўляецца. Часамі-жа вынікам родаў зьяўляюцца розныя хваробы, напрыклад, запаленьне сьлізьніцы праходу ці маткі, выпадзеньне ці параненьне маткі, радзільная гаручка і інш.

Запаленьне сьлізьніцы праходу і маткі вынікае ад забруджаньня праходу рукамі ці інструмантамі, а гэтак-жа пры выкідышах ці затрыманьні пасьледу, калі ён пачне гніць. Адзнакамі запаленьня бываюць: апуханьне надворных частак праходу, выцяканьне брудна-жоўтых з гнілым пахам вод і пачырваненьне сьлізьніцы. Калі гэту хваробу не запускаць, то яна праходзіць хутка. Лечаць яе прамываньнем цёплай вадою з дадачай на 100 частак вады 1-2 часткі лізолу, або крэаліну, а гэтак-жа 1-2 сталовых лыжкі квасцоў на поўвядра вады.



Выпадзеньне маткі ў каровы.

Выпадзеньне маткі бывае пры цяжкіх неправіловых родах і напружных натугах. Калі матка ўжо прыпухла, то кладуць халодны компрэс, затым,—абмыўшы цёплай перагатованай вадою, напраўляюць яе ў родавы праход і затым далей на сваё месца. Гэту апэрацыю ляпей рабіць калі зад жывёлы стаіць вышэй. Добры ўплыў мае прывязваньне на сьпіну жывёле цяжару да пуда вагою. Пры немагчымасьці ўладзіць матку на сваё месца з прычыны значнага параненьня, яе прыходзіцца адрэзваць, што павінна быць зроблена вэтэрынарам. Жывёла пасьля гэтай апэрацыі выздараўлівае праз 2-3 тыдні.

Найбольш цяжкай хваробай жывёлы лічыцца радзільная гаручка. Вынікае яна ад мікробаў, якіх можна ўбачыць толькі праз павялічваючыя шклы мікроскопу. Мікробы пападаюць у матку, а далей і ў кроў ад брудных рук ці інструмантаў пры апэрацыях.

Выразныя адзнакі гэтай хваробы: жывёла непакоіцца, цяжка і часта дышыць з перарывамі, выгляд вачэй спалоханы, цяплыня цела падымаецца да 40-41 градусу. Жывёла часта кладзецца, устае і зноў падае, пакуль не вынікае паляруш заду. Далей жывёла ўжо не ўстае, а ляжыць з закрытымі вачыма і пахіліўшы ў бок галаву, часта з хрыпотамі дышыць і стогне. Хвароба прадоўжваецца гадзін 12-18; пры атсутнасьці дапамогі здараецца і сьмерць жывёлы.

Лечаць жывёлу толькі расьціраньнем ног, жывата і заду саломаю з шкіпінарам ці камфоравым алеем, а пасьля добра ўкрываць жывёлу мяшкамі, дзяругамі і інш. Пры такой хваробе найлепш пазваць вэтэрынара, які зробіць удуваньня паветру ў вым'я ці зробіць уколы. Гэты парадак лекаў памагае на 90 процантаў.

**Вэтэрынар Дыяконенка.**

# Уплыў паветра на здароўе і продукцыйнасьць жывёлы.

Жыцьцё кожнае жывёлы залежыць ад анатомічнага і фізыолёгічнага яе складу і ад надворных умоваў, г. з. ад гаспадара.

Загэтым, кожнаму гаспадару-земляробу, неабходна знаць абкружаючыя жывёлу умовы, вывучэньнем якіх займаецца навука аховы здароўя свойскае жывёлы, ці зоогігіена.

Значны ўплыў на здароўе і продукцыйнасьць жывёлы робіць *паветра*.

Зусім не аднолькава, якім паветрам дышуць жывёлы і якое паветра іх абкружае. Зоогігіена, як навука аховы здароўя, імкнецца знайсьці спосабы, пры дапамозе якіх магчыма было-б пазбавіцца шкоднага і бруднага паветра ня толькі ў хляве, а й знадворку. Пры вялікай зьмене складаных частак паветра, як прымешка фосфорыстага вадароду, балотнага газу, а гэтак-жа цьвёрдых частак, як пыл, паветра можа зрабіцца для жывёлы атрутай. Нормальнае паветра складаецца з мешаніны розных газаў, дзе на 100 частак паветра прыходзіцца карыснага газу—кісvolароду 20,7 проц.—$^1/_5$ частка, азоту 78,8 проц. і другіх частак, як вадарод, вугляны квас і інш. 0,5 проц.

Такога складу паветра лічыцца чыстым і ня шкодным, але ў прыродзе, бязумоўна, чыстага паветра няма. Часта прыкмячаюцца ўхілы ад нормы складаных частак паветра і ўхілы гэтыя павялічваюцца кліматычнымі умовамі. Калі, напрыклад, колькасьць вуглянога квасу ў паветры павялічыцца да 1 проц., то гэта выклікае выпадкі задушэньня, а 5 проц. вуглянога квасу ўжо сьмяртэльны для жывёлы.

З усіх складаных частак паветра *кісларод* зьяўляецца самым галоўным элемэнтам у працэсу жыцьця і дзейнасьці жывёлы. Кісларод пранікае праз лёгкія ў кроў і акісляе яе, што неабходна для жыцьця.

Загэтым і кажуць, што пры дыханьні ў лёгкія пападае чыстае паветра, знача, кісларод, а выходзіць з лёгкіх псутае паветра—*вугляны квас*.

Цяпер, каб правілова зразумець рост, здароўе і продукцыйнасьць жывёлы, спытаем, якім-жа паветрам дышуць жывёлы ў беларускіх гаспадарках. Досыць кінуць вокам ня сялянскія хлявы, каб без памылкі сказаць, што чыстага паветра яны ня маюць. У большасьці выпадкаў жывёла трымаецца на гнаі, без усялякае зьмены паветра. Паветра ў хлявох псуецца тым, што жывёлы выдыхаюць вугляны квас, а таксама вугляны квас вылучаецца і з гною. Акром таго, пры гніеньні гною пасьпяхова павялічваецца лік розных грыбкоў ды бактэрый, якія, высыхаючы, носяцца ў паветры памяшканьня, а пападаючы ў лёгкія жывёле, могуць выклікаць хваробы. На падставе гэтага, кожны гаспадар павінен імкнуцца адхіляць шкодныя умовы ўтрыманьня жывёлы і даваць магчымасьць заўсёды уваходзіць у хлеў чыстаму паветру.

Аб добрым уплыву паветра на продукцыйнасьць малочных кароў сьведчаць досьледы аднаго контрольнага саюзу Ліфляндыі. Досьледы рабіліся ўлетку над 8 каровамі пры умовах трыманьня іх у хляве і

на пашы; пры чым стоячыя ў хлява каровы атрымоўвалі зялёнага корму столькі, колькі зьядалася яго на пашы.

| Каровы | Удоі кароў пры ўтрыманьні ў хлеве | | Удоі кароў пры ўтрыманьні на пашы. | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік малака ў літрах[1]) | % тлустасьці ў малаку. | Лік малака ў літарх | % тлустасьці ў малаку. |
| А | 12,90 | 4,3 | 14,06 | 4,5 |
| Б | 4,2 | 3,9 | 7,0 | 4,0 |
| В | 7,6 | 3,7 | 9,3 | 3,73 |
| Г | 7,4 | 3,83 | 8,4 | 3,9 |
| Д | 10,2 | 3,83 | 12,8 | 3,7 |
| Е | 11,1 | 3,57 | 14,4 | 3,9 |
| Ж | 3,7 | 3,57 | 4,6 | 3,5 |
| З | 16,8 | 3,20 | 19,5 | 3,77 |
| | 73,9 | 3,74% | 90,0 | 3,87% |

Знача, пры ўтрыманьні на пашы малака атрымана больш на 16,1 літра, а тлустасьць яго павялічылася на 0,13%.

Якое-ж паветра пераважна на Беларусі?

Беларусь багата балотамі. На абшары каля 2-х мільёнаў дзесяцін людзі і жывёла дышуць паветрам багатым вільгацю. Акром гэтага, у балотным паветры ёсьць шмат прымешкі розных хваравітых зачаткаў, і такое паветра можа служыць прычынай хранічных хвароб, як вадзянка, худасочча і інш.

З мэтай зьберажэньня здароўя жывёлы і жаданьнем павялічыць карысную плошчу зямлі, раіцца распачаць асушку балот, праз мэліарацыйныя таварыствы і толькі пасьля асушкі мы зможам сказаць, што наша жывёлаводзтва будзе разьвівацца нормальна і паляпшацца з боку якасьці.

Такім чынам, мы прыходзім да выніку, што парушэньне нормальнага складу паветра выклікае розныя хваробы жывёлы, а гэта зьніжае яе продукцыйнасьць і прыбытак сялянскіх гаспадарак.

**І. Н. Атабекянц.**

# Догляд птушак.

На аднага пеўня добра трымаць ня больш, як дзесяць курэй. Меншая або большая колькасьць перашкаджае добраму запладненьню яек. Пажадана, каб гаспадар ведаў кожную птушку і паасобку. Дзеля адзнакі накладваюць на нагу кожнай курыцы кольца з нумарам, па якому і запісваюць кожын дзень, калі птушка нясецца. Гэтакі запіс дае магчымасьць падлічыць за год, якая з курэй лепш нясецца, якую пакідаць на другі год, а якая не аплачвае і харчаваньня.

[1]) 1 літр малака-$1^1/_2$ бутэлькі.

Праглядаюць нясеньне курэй праз абмацваньне альбо праз контрольныя гнёзды. Яйкі вымаюць з гнязда па магчымасьці хутчэй, каб яны былі чыстымі і не паклёванымі тэй-жа птушкай. Лепш за ўсё на яйку адзначыць дату калі яно зьнесена і ставіць нумар птушкі. Гэта дае магчымасьць ведаць сьвежасьць яек, што асабліва каштоўна вясною і раньнім летам у час вываду курчанят. Яйкі, праляжаўшы больш як тры тыдні, на поклад пад квактуху нягодны.

Веснаваньне курэй звычайна пачынаецца ў студзені месяцы. У гэты час пеўні асабліва настроены, грэбні ў іх чырванеюць і яны б'юцца паміж сабою. Куры жадаюць несьціся і неяк асабліва квокчуць.

Догляд за птушкай не павінен абмяжоўвацца адным харчаваньнем. Трэба, наглядаючы за птушкай, адзначаць зьмены ў яе здароўі і хворых не застаўляць паміж здаровых. Уважлівы гаспадар ці гаспадыня ўжо зраньня прымячае, калі ў птушніку што-небудзь няладнае. Пасьля харчаваньня, птушак з яйкамі пакідаюць у тым месцы, дзе ёсьць гнёзды, а ўсіх іншых выпускаюць на волю і прыбіраюць у птушніку. Каб лягчэй гэта зрабіць, з вечара пад седалы падсьцілаюць старую дзяружку, а ўраньні дзяружку згортваюць і гной сыплюць у пэўнае месца. Кожны дзень птушнік праветрываюць.

Пасудзіны, з якіх харчуюць птушак, павінны быць чыстымі. Раз у тыдзень у птушніку робіцца грунтоўная чыстка. Седалы мыюць і вычышчаюць шчоткай, падсьцілку зьменьваюць і зьмятаюць з сьцен пыл. Калі ў птушніку ёсьць інкубаторы ці квактухі, дык пасьля прыбіраньня займаюцца імі: інкубаторы праветрваюцца, квактух выпускаюць і харчуюць. У гэты час аглядаюць гнёзды, дзе сядзелі квактухі. Вечарам птушак харчуюць і заганяюць кожную на сваё месца. І цяпер назіраюць за птушкай, ці ўсе паселі на седалы, бо часамі, застаўшыяся на зямлі, выказваюць першыя адзнакі занядужаньня. Калі своечасна зьвярнуць на іх увагу, то можна лёгка і вылячыць.

Л. Чарткоў.

---

# Крупчакі ці фіноз сьвіньней.

Кожны селянін, колючы свіньней, пэўна прымячаў на мясе і на сэрцы сьвіной тушы белаватыя круглыя пузыркі велічынёю ад галоўкі шпількі да гарошыны.

Гэтыя пузыркі завуцца фінамі. Сяляне завуць іх „крупкаю, крупою“, а фінозных сьвіньней крупчакамі. Названая фіна (крупка) ёсьць маладая лічыначная стадыя ў жыцьці істужкавай глісты-салітэра, якая часам жыве ў тонкіх кішках чалавека. Праз павялічваючае шкло мікроскопу можна ўбачыць, што фіна складаецца з галоўкі, шыйкі і хвастовога пухірка. З бакоў галоўкі разьмяркованы 4 прысоскі, а паміж імі хабаток абкружаны вяночкам з 20-40 кручкамі. Фіна ў сьвіным мясе

расьце, перапаўняецца асаблівай харчовай жыжкаю і можа дасягнуць велічыні бобу. Жыцьцё фіны ў целе сьвіньні цягнецца звычайна нябольш 3-6 гадоў і ў рэдкіх выпадках да 20 год.

Дзеля дальейшага свайго разьвіцьця фінам неабходна трапіць у жывот чалавека, што і бывае даволі часта з людзьмі, якія ядуць недаваранае фінознае мяса сьвіньней.



Фінознае мяса сьвіньні.



Галава салітэра.

Папаўшы ў жывот чалавека жывая фіна пад уплывам пажыўных сокаў організму чалавека звальняецца ад мяса, у якім яна знаходзілася, і пападае ў тонкую кішку. Там галоўка фіны сваімі саскамі і кручкамі моцна прысасваецца да абалонкі кішкі. Ад шыйкі пачынаюць расьці членікі, колькасьць якіх праз 11-12 тыдняў дасягае да 300 і такім чынам фіна абарачваецца ў чалавечую глісту-салітэра даўжынёю да 3-х сажняў. Салітэр у кішэчніку чалавека мае багата харчоў і хутка расьце. У кожным члéніку яго зьяўляюцца палавыя органы, а далей і яйкі лікам да 53 тыс.



Салітэр чалавека.

На працягу месяцу адзін салітэр аддзяляе каля 2-х мільёнаў яек. Яйкі разам з членікамі выходзяць на двор у спаражненьні чалавека і чакаюць выпадку трапіць у кішэчнік сьвіньні дзеля далейшага разьвіцьця. Такім чынам адбываецца перадача заразы ад сьвіньні да чалавека і ад чалавека да сьвіньні. Яйкі салітэра могуць трапіць і ў жывот чалавека, напр., пры ядзе з бруднымі рукамі або пры рвоце людзей хворых салітэрам, то ў гэтым разе і чалавек можа захварэць фінозам. Яйкі салітэра пакрыты вельмі моцнай абалонкай, якая захоўвае іх ад высыханьня і гніеньня на працягу некалькіх тыдняў.

Сьвіньні, якіх выпушчаюць хадзіць вольна па дварох і ў адходных месц, ядуць яйкі салітэра, з якіх у сьвіным мясе вырастаюць фіны.

У Прусіі (Нямеччына) фінозных сьвіньней каля . 0,04 проц.
У Саксоніі . . . . . . . . 0,02 „
У Бэрліне . . . . . . . . 0,03 „
На Маскоўскіх бойнях каля 6 проц.

У нас-жа на Беларусі па статыстыцэ менскіх бойняў за 1923/24 г.— 8,18 проц., прычым прагледжана было 10336 сьвіньней. Па вёскам % фінозных сьвіньней будзе яшчэ большым. Вынікае, што на Беларусі сьвіньні ў 200 раз гадуюцца горш, чым у Нямеччыне.

Якія-ж спосабы можна і неабходна прыняць, каб пазбавіцца фіноза сьвіньней. Лячыць заражаных фінозных сьвіньней — крупчакоў бескарысна: іх вылечыць нельга. Трэба толькі абараняць сьвіньней і асабліва да 6-месячнага ўзросту ад паяданьня чалавечых спаражнёньняў і не дапушчаюць іх да адходных месц і інш. Фінознае-ж мяса, калі ў ім фінаў ня так шмат, пры ўжываньні ў харчы трэба добра праварыць. Мяса лічыцца гатовым, калі у сярэдзіне яно шэравата-белага колеру.

Калі фінаў шмат, то мяса неабходна зьнішчыць, а сала жыратапіць. Ад задыменьня фінозных каўбас ці шынак зараза не памірае.

Людзі, хворыя салітэрам, павінны лячыцца, каб вызваліць сябе ад паразіта, інакш яны самі будуць распаўсюджваць фінозную хваробу, як паміж сьвіньней, так і людзей.

**Вэтэрынар Сярпоў.**

---

# Колікі і першыя дапамога жывёле.

Колікі—гэта ня ёсьць назова якой-небудзь пэўнай хваробы, а ёсьць агульная назова дзеля размаітых жалудачна-кішкавых занядужаньняў, якія выклікаюць моцныя болі. Ня будучы заразьлівай хваробай, імі часьцей усяго занядужваюць коні, менш іншая жывёла. Занядужаньне імі ў нашых гаспадарках вельмі частае і сьмяротнасьць ад іх высокая. Пры ўжываньні своечаснага і патрэбнага лячэньня гэтыя занядужаньні праходзяць даволі пасьпешна. Вось чаму ва ўсіх гэтых выпадках, калі толькі ёсьць магчымасьць, патрэбна зараз-жа зьвяртацца да вэтэрынара за дапамогай.

Колікі часьцей усяго зьяўляюцца выпадкова, бяз усякіх папярэдніх адзнак. Конь раптам пачынае трымаць сябе непакойна: стагнаць, біць нагамі, класьціся і ўсхапліваца, часта пазіраць на жывот, ня можа рабіць свае патрэбы. Конь моцна дыша, пацее, жывот уздуваецца, а вочы наліваюцца крывёю. На некаторы час як быццам бы прыходзіць супакой, а потым зноў зьяўляюцца ранейшыя адзнакі.

Ува ўсёй іншай жывёлы пры занядужаньні колікамі зьяўляюцца тыя-ж адзнакі, але ня так яскрава яны вызначаюцца, як у коняй.

Зьяўляюцца колікі ад размаітых прычын, часьцей-жа ад дрэннай якасьці кармовых продуктаў (трухлявых, згніўшых, сплесьнеўшых) ці кармоў са сьмецьцем, зямлёю і пяском, ад ужываньня вялікай коль-

касьці маладой канюшыны, батвіньня і г. д. Ня мала гіне коняй і дзякуючы распаўсюджанаму звычаю замнога карміць іх перад цяжкой працай. Апрача гэтых прычын, трэба яшчэ адзначыць і прастужваньне (скразьнякі, ужываньне халоднай вады для паеньня разгарачаных коняй).

Каб зьберагчы сваю жывёлу ад занядужаньня колікамі, неабходна сачыць за жывёлаю пры харчаваньні і берагчы яе ад прастужваньня. Калі нельга па якім-небудзь прычынам зьвярнуцца да вэтэрынара за дапамогай, дык патрэбна ў першую чаргу звольніць ад калу задні праход, дзеля чаго, ўступна змазаўшы руку маслам, уводзіць яе ў задні праход і паступова выбіраць адтуль увесь маючыйся там кал. Апрача гэтага, добра зрабіць жывёле леватыву з мыльнай вады і далучэньнем да яе 2-3 сталовых лыжак алівы. Пры ўсім гэтым патрэбна расьцерці ўсё цела, асабліва жывот, пукамі саломы ці шчоткаю, змачыўшы іх шпігінарам. Пасьля гэтага трэба пакрыць жывёлу папонаю і адвесьці ў вольнае памяшканьне з мягкім падсьцілам. У сярэдзіну занядужаўшай жывёле даюць паслабныя, як рыцына (каню 1 ф., рагатай жывёле да 2 фунтаў, авечцы $^1/_4$-$^1/_2$ фунта, сьвіньні 5-6 сталовых лыжак). Апрача рыцыны можна даць глаўберавай солі (каню 1 ф., рагатай жывёле $1^1/_2$ ф. і сьвіньні $^1/_2$ ф.).

Усё гэтае зельле даецца звычайна з бутэлькі буйнага шкла і гладкімі бакамі, каб не парэзаць у роцэ. У бутэльку наліваюць плыўкае зельле і, падняўшы галаву жывёлы трохі ўгору, уліваюць асьцярожна з маленькімі перапынкамі, каб зельле на папала ў дыхальнае горла.

Вэтэрынар **А. Агапітаў.**



# ПЧАЛЯРСТВА

## Зімоўка пчол.

Добрая зімоўка пчол адна з галоўных падставін пчалярскае гаспадаркі.

Але каб зразумець умовы добрае зімоўкі, трэба ведаць, як пчолы жывуць зімою.

У час зімы пчолы ня дубеюць, як іншыя кузуркі, а, сабраўшыся ў больш-менш цесны клубок, захоўваюць у сярэдзіне клубка належную цяплыню, патрэбную дзеля іх ціхага і маларухомага жыцьця, дышуць і патроху ядуць мёд. Дзеля гэтага пчолы адгрызваюць пакрыцьцё сотаў і мёд, які знаходзіцца ў іх, уцягвае вільгаць з паветра вульля, робіцца больш вадкім і ў такім выглядзе зьяўляецца ежай і пітвом дзеля пчол.

Пчолы, якія ў той ці іншы момант сядзяць на паверхні клубка, каб ня здубець, праціскваюцца ў сярэдзіну клубка, а іх месца займаюць іншыя пчолы. Гэта цягнецца праз увесь час зімовага пабыту пчол. Разам з спажываньнем мёду ўвесь клубок пчол патроху падымаецца ўверх да нечапаных яшчэ харчовых запасаў.

Зімою ў пчол працы мала, дзетак яшчэ няма. Загэтым, пры добрай, спакойнай зімоўцы яны зьядаюць мёду мала.

А гэта вельмі каштоўна, бо здаровыя пчолы ніколі не спаражняюцца ў вульлі. Яны затрымоўваюць у сабе (у здольнай расьцягвацца задняй кішцы) да вясенаняга вылету ўсе не патрэбныя рэшткі ежы.

Усё тое, што прымусіць пчол зьесьці больш чым патрэбна дзеля падтрыманьня маларухомага жыцьця, будзе ім шкодзіць і можа выклікаць панос, ад якога пчолы гінуць.

Што-ж можа прымушаць пчол есьці больш, чым патрэбна пры добрых умовах зімоўкі?

Перш, занадта вялікая цяплыня ў вульлі, а таксама і холад ці непакой ад розных прычын.

Аднак лішняя цяплыня часьцей чым холад шкодзіць добрай зімоўцы пчол.

Найчасьцей гэта здараецца ў занадта цёплых памяшканьнях, куды ставяць вульлі дзеля зімоўкі, асабліва пад канец зімы, калі сонца пачынае мацней грэць будынкі.

Трэба клапаціцца, каб увесь час у памяшканьні, дзе зімуюць пчолы, цяплыня паветра не перавышала трох градусаў па цепламеру Рэамюра (+3° R), як і холад не павінен быць звыш трох градусаў (—3° R).

Толькі пры такой цяплыні, бяз хуткіх зьмен і пры поўным спакою, цемры, чыстым і сухім паветры клубок пчол ня будзе зьмяняць сваёй велічыні; пчолы будуць маларухомы і абмяжуюцца самай малай колькасьцю ежы.

Як толькі ў вульлі робіцца занадта душна, а паветра сухім, то мёд у адкрытых сотах ня можа прыцягваць належную колькасьць вільгаці, і пчолы пачынаюць адчуваць смагу. Яны ядуць больш мёду, а ад гэтага і цяплыня іх клубка яшчэ больш павялічваецца. Матка можа пачаць адкладваць яйкі, пачынаецца звычайная гадоўля дзетак, павялічваецца без пары праца пчол і колькасьць патрэбнае ежы. Задняя кішка пчол перапоўніцца рэшткамі ежы, пчолы захварэюць паносам і гінуць.

З другога боку і холад у вульлі прымусіць пчол больш рухацца і, зразумела, бальш есьці. Зноў паўстае пагроза паносу ці беспатрэбнае нішчэньне запасу мёду.

Непакой у вульлі, калі туды залезьлі мышы, а таксама і непакой каля вульля можа раскатурхаць пчол і вынікі ад гэтага будуць падобны да раней апісаных.

Ня менш патрэбна даглядаць, каб у вульлі было заўсёды чыстае паветра, бо пчолы дышуць і бяз чыстага паветра будуць задыхацца. Дзеля гэтага ў вульлёх, калі яны зімуюць у памяшканьні, ляткі павінны быць адчынены на ўсю шырыню, ціратовыя столі ці столі з дошак патрэбна зьняць і адчыніць ваконцы ў вульлёвых дахах. Бязумоўна, што і ў памяшканьні, дзе стаяць пчолы, паветра павінна быць чыстым.

Добры пчаляр будзе заўсёды аб усім гэтым памятаць і час ад часу наведвацца да сваіх пчол. Спачатку зімы даволі гэта рабіць раз у 3-4 тыдні, а далей і часьцей.

Калі-б здарылася, што які-небудзь вулей непакоіцца, трэба спрабаваць яго супакоіць, зьняўшы падушку з палатнянай пакрыўкі, якая ляжыць зімою зьверху рамак вульля. Калі гэта не паможа, трэба на якійсь час зьняць дах, каб паменшыць задуху ў вульлі. Калі і пасьля гэтага пчолы не супакоіліся, то лепш перанесьці гэты вулей у другое памяшканьне, каб ён не бунтаваў іншыя вульлі.

Яшчэ трэба памятаць, што пры назіраньні за пчоламі зімою неабходна быць вельмі асьцярожным: ня грукаць і не чапляцца за вульлі, каб пчолы не даведваліся, што хтосьці прышоў да іх.

Калі неабходна асьвятляць памяшканьне, дзе стаяць пчолы, то гэта трэба рабіць па магчымасьці не на доўгі час і такім чынам, каб сьвятло ня трапіла проста ў ляток. Час-ад-часу ляткі вельмі асьцярожна трэба прачышчаць ад мёртвых пчол, каб яны не перашкаджалі сьвежаму паветру ўваходзіць у вульлі.

С. С.

# Што рабіць пчаляру ў лютым месяцы.

Люты, як і студзень месяц, на Беларусі належыць да часу пакоя пчол, г. з. слабай іх дзейнасьці. У канцы лютага асабліва ў паўднёвай Беларусі дзейнасьць пчол абуджаецца. Моцныя пчаліныя сем'і павялічваюць лік пчол выхаваньнем маладой пчаліной дзеткі, а ў сонечныя дні вылятаюць дзеля аблёту і спаражненьня сваіх жываткоў ад рэшткі ежы.

Пчаляру неабходна праслухоўваць сваіх пчол, бо ў гэты час пачынаецца значнае ўжываньне пчоламі мёду і там, дзе запас яго быў нязначны, можа стацца голад. У гэтым разе пчаляр павінен даць пчолам падхарчоўку, асьцярожна падкладваючы яе зьверху рамак вульля. Добрай подхарчоўкай можа быць кружок рафінадавага цукру змочаны цёплай вадою. У горшым выпадку можна скарыстаць цукровы пясок, які насыпаюць у чысты палатняны мяшочак і добра змочваюць цёплай вадою.

Праца падхарчоўкі пчол павінна быць споўнена бяз шуму, ня робячы значнага асьвятленьня і ахладненьня вульля.

Пазнаюць галадаючыя сем'і падслухваньнем у лятох. У галадаючай сямьі чутны гукі падобныя да шапаценьня паперы або неаднастайнае бж... бж... бж..., у той час, як сем'і дабрабытныя вытвараюць роўныя і ўпэўняныя гукі гу... гу... гу...

Акром таго, неабходна сачыць, каб ляткі ня былі забруджаны ўпаўшай мёртвай пчалою. У вульлі неабходна падтрымоўваць сьвежае паветра і сачыць, каб туды не маглі пралезьці мышы. Свабодны час пчаляр можа траціць на прыгатаваньне рамак, новых вульлёў, штучнай вашчыны і г. д., каб вясною і летам мець павольны час на іншыя справы.

**І. П. Фэдарака.**

# АГРОНОМІЧНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Аб с.-г. гуртках.

За астатні час на Беларусі ўтварылася даволі шмат с.-г. гурткоў. Па весткам агрономаў у кастрычніку мінулага году іх налічвалася каля двухсот. У будучыне трэба чакаць, што лік гурткоў будзе значна большым. Цяпер ёсьць патрэба аформіць гэтыя гурткі—даць ім тлумачэньні па організацыі і працы. Мы затрымаемся толькі на некаторых пытаньнях адносна с.-г. гурткоў.

*Якія могуць быць с.-г. гурткі?*

Гурткі адрозьніваюцца найчасьцей па ўзросту большасьці іх сяброў.

Могуць быць с.-г. гурткі сялянскай моладзі, якія будуюцца пры ячэйках, комсамолу; с. г. гурткі пры хатах-чытальнях, народных дамох, разьмяркованых на працу дарослых сялян. Дзеля дзяцей школьнага ўзросту могуць быць пры школах свае с.-г. гурткі (школьныя клюбы). На Беларусі с.-г. гурткі пераважна сялянскай моладзі, дзе прымаюць удзел і дарослыя.

*Зачым патрэбны на вёсках с.-г. гурткі?*

Правіловая праца с.-г. гурткоў на вёсцы вельмі карысна сялянскай гаспадарцы. Вось зачым практычны народ амэрыканцы ўсялякім чынам пашыраюць с.-г. гурткі і дапамагаюць іх парцы.

Той, хто працуе ў гуртку, слухае агронома, чытае с.-г. кнігі, знаёміцца з добра пабудаванай гаспадаркай і мае практычную працу ў полі, садзе, гародзе, можа стаць сьвядомым чалавекам у сельскай гаспадарцы. Сябры гуртка павінны даказаць практычнасьць атрыманых вед перш у сваіх гаспадарках і сваім прыкладам. Добры паказ дзеля селяніна—лепшы даказчык. Вядома, што ў гэты час патрэба на агрономаў на вёсцы вялікая, але іх яшчэ мала.

Гурткі-ж могуць дапамагаць агрономам у іх працы сярод сялян, напрыклад, пры пабудове паказальных вучасткаў і розных кампаніях (ачыстка насеньня, пабудаваньне с.-г. выставак і г. д.).

Праца ў гуртку павінна даваць сяброў прывычку і здольнасьць да сумеснай сяброўскай працы. С-г. гурткі на вёсцы павінны быць карысны ня толькі сябром, але і акружаючаму сялянству. Гурткі—аснаўныя пункты дзеля агронома. Асобнае значэньне маюць гурткі сялянскае моладзі, бо ёй, моладзі, лягчэй ахапіць новыя с.-г. веды, каб скарыстаць іх у пабудове Новай Вёскі.

*Як належыць працаваць гуртком?*

Мясцовага беларускага вопыту па адбудове і працы гурткоў ёсьць мала. Але ўсё-ж такі і цяпер можна сказаць некалькі слоў.

1. Гурткі павінны працаваць не выпадкова, а па пляну. Плян працы павінен складацца і абгаворвацца ў самом гуртку. Плянам трэба прадбачыць, як зімовую працу (с-г. гутаркі, чытаньне кніг), так і практычныя працы летам у гаспадарцы сяброў (поле, сад, гарод).

Перш трэба пачынаць з больш простай і зразумелай працы (ачыстка насеньня, догляд за садам, абрэзка гальля, чыстка і пабелка дрэў, збор шкоднікаў, догляд за жывёлаю і г. д.).

2. Асаблівую увагу належыць зьвяртаць на выпаўненьне практычнай працы. Сябры гуртку павінны ня толькі ўзбагачваць сябе с-г. ведамі, але і ўмела іх скарыстоўваць у сваіх гаспадарках.

3. Сябры с.-г. гурткоў не павінны пакладацца на сілы кіраўнікоў (агронома, настаўніка, загадчыка хаты-чытальні), а больш на свае сілы, бо гурткам патрэбна самадзейнасьць. Загэтым, кожны сябра гуртку павінен прымаць удзел у агульнай гуртковай працы.

4. Дзеля параўнаньня пасьпехаў працы сяброў гуртка каштовен удзел с.-г. гурткоў у мясцовых сялянскіх выстаўках, неабходзен агляд усяго зробленага сябрамі гуртку ў сваіх гаспадарках і паведамленьні сябрамі гуртка на агульных сходах аб сваіх працах. Пры залічэньні ў сябры гуртка жадана па магчымасьці прымаць асоб аднолькавага ўзросту і зацікаўленасьці працай гуртка. Каштоўна адразу правілова пабудаваць працу ў кожным гуртку. Загэтым, няхай будзе ў раёне лепш адзін, два гурткі, але добрых, чым дзесяць ды нягодных.

*Трэба скарыстаць вопыт і працу с.-г. гурткоў.*

Зараз ня толькі ў нас на Беларусі, але і па ўсім Саюзу йдзе вялікая праца па ўтварэньню с.-г. гурткоў. Шмат с.-г. гурткоў маецца і ў другіх старонках—асабліва ў Амэрыцэ. Напрыклад, у 1922 г. там лічалыся 490 тыс. сяброў; яны ўзгадавалі с.-г. продуктаў на суму 14 мільёнаў залатых рублёў; 140 тыс. сяброў прымалі удзел ў 10 тыс. мясцовых выставак. І яшчэ прыклад. У Чарнігаўшчыне ў 1920 г. зроблен пачатак утварэньня с.-г. гурткоў моладзі (Носаўская Дасьледчая станцыя).

На Беларусі, с.-г. гурткі пачалі вынікаць пры дапамозе агрономаў яшчэ з 1923 г. (Барысаўскі і Бабруйскі паветы). У мінулым 1924 г. на Барысаўшчыне ў гаспадарках сяброў былі закладзены 192 паказальных вучастка, у 12 сяброў пацеплены хлявы. Большасьць сяброў практыкавала сяўбу канюшыны, сэрадэлі; некаторыя з іх былі ўдзельнікамі мясцовых с.-г. выставак. У Бабруйшчыне з 1923 г. працуе школьны гурток, сябры якога таксама былі удзельнікамі мясцовых выставак у 1924 г. і атрымалі прэміі.

Гурткам, пачынаючым сваю працу, карысна мець на увазе вопыт працы другіх гурткоў і забясьпечыць сябе належнай літаратурай. Раіў-бы кнігу „С.-г. гурткі моладзі і дзіцячыя клюбы“ Кастэцкага.

Пажадана ў далейшым часе ўтвараць зьезды прадстаўнікоў с.-г. гурткоў дзеля сумеснага абрахаваньня пытаньняў гуртковай працы.

Агроном **А. Міхайлаў.**

# Трэба выкарыстаць вопыт селяніна.

Агрономы Заходняе Эўропы і нават агрономы РСФСР, якія працуюць над пабудовай новае, разумнае і больш даходнае сельскае гаспадаркі, шырока карыстаюцца працай сваіх дасьледчых установаў, вопытных станцый і палёў.

На вялікі жаль беларускаму агроному, дзякуючы цяжкім гістарычным умовам існаваньня Беларусі, гэтага зрабіць немагчыма.

Дасьледчых установаў на абшарах Беларусі ў старыя часы было пабудована вельмі мала; большасьць з іх пачала працаваць перад самай імпэрыялістычнай вайной і таму не здалела добра разгарнуць сваю працу.

І ня дзіва, што беларускі агроном са ўсёй сваёй кніжнай, адарванай ад беларускіх умоў навукай часта адчувае сабе вельмі дрэнна.

Сельская гаспадарка значна залежыць ад мясцовых умоў і даваць тыя ці іншыя рады гаспадаром, карыстаючыся навуковым вопытам загранічных краёў з іншымі умовамі сельскае гаспадаркі, трэба вельмі асьцярожна, а часам і зусім немагчыма.

Але-ж чакаць таго часу, калі Беларусь будзе ўсебакова вывучана і калі зьбярэцца шматгадовы вопыт беларускіх дасьледчых установаў, таксама немагчыма.

Трэба шукаць іншага выйсьця.

Кажуць, што найлепшым настаўнікам будзе той, хто ня толькі вуча, а й сам увесь час вучыцца.

Агроному, гэтаму пазашкольнаму настаўніку сельскае гаспадаркі, гэта трэба добра памятаць і няўтомна зьбіраць новыя агрономічныя веды, трэба пільна сачыць за працай дасьледчых установаў, за бягучай сельска-гаспадарчай літаратурай і гэтак далей.

Але-ж усяго гэтага будзе мала, асабліва ў нас на Беларусі.

Беларускаму агроному можа ў першую чаргу трэба вучыцца ў сваіх „вучняў"—беларускіх працоўных гаспадароў.

Трэба добра ўцяміць, што колектыўная думка нашых гаспадароў на працягу стагодзьдзяў сельска-гаспадарчай працы пад значным уплывам заходня-эўропэйскай культуры, здолела пазнаць ня мала „таемнасьцяй" беларускае прыроды, назьбірала шмат усялякіх вед, „сэкрэтаў" і „рэцэптаў".

Няхай неасьвечаны беларускі селянін часам ня можа правілова зразумець сувязь паміж зьявішчамі, якія ён бачыць, але ад гэтага фактычны матар'ял яго назіраньняў ня губляе сваёй вартасьці.

Зьдзекваліся над селянінам паны, калі яны выяўлялі яго якімсь заспаным дурнем ці гультаём, які ня дбае аб сваёй гаспадарцы, ня шукае шляхоў да яе паляпшэньня.

Зразумела, ня трэба глядзець на селяніна й здолу ўгору. Але патрэбна прызнаць яго сваім таварышом па працы над уздымам сельскае гаспадаркі.

Мне, старому беларускаму агроному, ужо ня першы раз прыходзіцца зьвяртаць на гэта увагу.

Сельска-гаспадарчая думка селяніна заўсёды працуе і трэба сачыць за гэтай думкай, трэба старанна зьбіраць гэты вельмі каштоўны,

часам праўдзіва горкі сялянскі вопыт, сялянскія шуканьні новых пуцявін дзеля сваёй працоўнай гаспадаркі.

У дакладзе на адным з пасяджэньняў агрономічнае сэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры ў мінулым годзе мне давялося пазнаёміць сяброў сэкцыі з адным вельмі цікавым вынікам сялянскіх сельска-гаспадарчых шуканьняў, з адным севазваротам, які я назваў „беларускай сялянскай шасьціпалёўкай“ і які ўтварыўся са звычайнай трохпалёўкі ўжо больш дваццаці год таму назад*).

З таго часу гэты севазварот вельмі пашырыўся на Беларусі і настолькі зьмяніў старую трохпалёўку, што яе ўжо трудна пазнаць.

Беларуская сялянская шасьціпалёўка, мне здаецца, заслугоўвае вывучэньня, а беларускі селянін, утварыўшы гэты можа й неакадэмічны севазварот, заслугоўвае падзякі і пашаны.

Дазваляю сабе зьвярнуць увагу на артыкул т. Квірынга („Праўда“ № 15 г. г.) і разам з гэтым заклікаць найбольш старанных нашых сялян, каб яны не адмовіліся на старонках „Плугу“ дзяліцца сваім сялянскім вопытам, сваімі назіраньнямі, думкамі і шуканьнямі ў розных галінах сельскае гаспадаркі.

Няхай-жа „*Навука і жыцьцё*“, гэты лёзунг Беларускай Агрономічмічнае Станцыі, які зьявіўся яшчэ ў 1922 г., калі яна працавала ў Банцараўшчыне, запануе на абшарах Беларусі, няхай беларускі агроном і беларускі селянін зробяцца запраўднымі таварышамі.

Супольная праца на старонках часопісі „Плуг“ гэтаму дапаможа.

С. Скандракоў.

# На службе ў земляроба.

Но прежде чем взрезáть железом пласты неизведанной почвы,
Ты ветра познать постарайся и климата все изменения.
И то, как работали деды, каков в старину был обычай,
Чему урожай был обильный, а что неродилося вовсе.

**Виргилий.**

Галоўным продуктам харчаваньня чалавека зьяўляецца хлеб.

Б'ецца селянін над апрацоўкай зямлі, жадаючы здабыць добры ўраджай, а рабочы фабрыкі і заводу пакладае працу на атрыманьне машын і прылад, тканіны дзеля адзеньня, і якія нарэшце йдуць у абмен на хлеб.

Сялянскае сьвята ўраджаю ёсьць сьвята працы. Шчасьце і радасьць напісаны ў гэты час на твары кожнага з людзей. Гора і сум пануе ў краіне зьнішчанай неўраджаем.

Здавалася-б, што ўсе сілы і ўся мудрасьць навукі павінны быць накіраваны на здабыцьцё хлеба. Аднака гэтага няма. Сельская гаспапарка застаецца амаль што на месцы. Ранейшыя ўраджаі часта ў сотню пудоў з дзесяціны цяпер зьнізіліся на 30-40 пудоў.

*) Рэд. Гл. Сацьцю Т. Бародзіча.

Адзін год ураджай, другі—усё прападае. „Год да году непадобны“, кажа селянін.

Якія-ж прычыны робяць уплыў на ўраджай? Як пазнаць іх, каб пазбавіцца дрэнных?

Ні адзін чалавек усяго гэтага ня ведае. Але кожны можа прымячаць і вывучаць гэтыя прычыны, калі назіраць за імі на адным месцы на працягу некалькіх год і з году ў год. У працы кожнага селяніна быў пасьпех і няўдача. Хто працаваў, той памыляўся і кожная памылка была навукай наперад.

Вядома, што „хлеб па хлебу сеяць, ні малаціць, ні веяць“, але колькі цярпеў хлебароб пакуль прышоў да гэтага выніку. Цяпер ужо селянін ведае, што розныя хлябы родзяць парознаму на аднолькавых глебах.

Дзеля ўсяго гэтага патрэбна спроба, параўнаньне; патрэбна, як кажуць, практыка, досьлед. Вось адсюль і пашла назова—„Дасьледчае поле“, „Дасьледчая станцыя“, там утвараюцца досьледы над усімі с.-г. расьлінамі і жывёламі, якія распаўсюджаны ў сялянскіх гаспадарках. На дасьледчай станцыі імкнуцца даведацца, што больш усяго шкодзіць расьлінам у полі, вывучаюць багацьце глебы, яе складаньне, вільгаць, багацьце паветрам і г. д. Там вывучаюць, як павялічыць ураджайнасьць глебы, калі яна высілена нясупыннымі засевамі; якія сарнякі глушаць засевы і як змагацца з імі. Усе гэтыя досьледы цягнуцца многа год, бо год да году непадобны. Усё лепшае раўняюць з горшым ці сялянскімі засевамі. Шырокага досьледу ня можа здалець селянін і яго ўзялі на сябе дасьледчыя станцыі. Яны праводзяць гэту працу, каб ратаваць земляроба ад выпадкаў і рыску, каб на падставе практыкі сказаць яму: „Рабі гэтак... і ты будзеш кожны год з хлебам“. Пара ведаць земляробу аб дасьледчых станцыях і бліжэй з імі знаёміцца, каб навучыцца гадаваць сем каласоў там, дзе расьце адзін.

У нас на Беларусі ёсьць дасьледчыя станцыі, якія робяць досьледы з нашымі хлябамі. Ёсьць дасьледчыя станцыі па садоўніцтву і гародніцтву—яны выводзяць лепшыя гатункі яблык, груш, гародніны і г. д. Ёсьць дасьледчыя станцыі, якія разводзяць лекавыя травы і даюць магчымасьць разводзіць іх у сялянскай гаспадарцы; ёсьць станцыі, якія вывучаюць лясы, балоты і г. д.

Нарэшце пералічым дасьледчыя станцыі Беларусі.

1. Горацкія дасьледчыя станцыі ў г. Горы-Горках.
2. Менская аграномічная дасьледчая станцыя ў г. Менску.
3. Турская дасьледчая станцыя ў Бабруйскай акрузе.
4. Віцебская дасьледчая станцыя па паляводзтву і гародніцтву ў г. Віцебску.
5. Магілеўская дасьледчая станцыя лекавых расьлін у г. Магілеве.
6. Менская балотная дасьледчая станцыя ў г. Менску.
7. Забалацкая дасьледчая станцыя ў Бабруйскай акрузе.
8. Лясная дасьледчая станцыя ў г. Менску.
9. Станцыя па барацьбе з шкоднікамі ў г. Менску.
10. Контрольна-насенная дасьледчая станцыя ў г. Менску.

Усе гэтыя станцыі працуюць на карысьць земляроба. Большасьць з іх яшчэ маладыя, але некаторыя маюць ужо і пэўныя вынікі, якімі можна карыстацца і тым павялічваць даходнасьць сельскай гаспадаркі.

**А. Казлоўскі.**

# ЗЯМЕЛЬНАЯ ПОЛІТЫКА

## Чарговыя пытаньні зямельнае палітыкі.

I.

Малазямельле было заўсёды найбольш балючым пытаньнем нашай вёскі. Рэволюцыя Кастрычніка, перадаўшы працоўнаму сялянству больш паўмільёна дзесяцін панскай зямлі, паслабіла гастрату малазямельля, але не разьвязала пытаньня канчаткова. Цяпер мы зноў стаім перад усёй велічынёю гэтай проблемы. Трэба зноў шукаць шляхоў дзеля замаганьня з усімі цяжкімі праявамі малазямельля ў вясковым жыцьці.

У гэтым пытаньні мы павінны перш за ўсё выразна ўявіць сабе, што за хвароба—малазямельле, наколькі яна распаўсюджана ў нас, і чым яна галоўным чынам выклікаецца.

Малазямельле бывае дваякае: 1) *безадноснае*, ці *абсолютнае* і 2) *адноснае*. Паміж імі трудна правесьці мяжу, бо яны адрозьніваюцца больш па колькасьці, чым па якасьці.

Але ўсё-ж пад *безадносным* малазямельлем разумеюць такую колькасьць зямлі на гаспадара, на якой ён *ня можа пабудаваць гаспадаркі* больш-менш прыстасованай да існуючых умоў гаспадараваньня. *Пад адносным* малазямельлем разумеюць тое зьявішча, калі пры існуючай сыстэмэ сельскай гаспадаркі *сялянства ня можа ўкладаць у сваю гаспадарку цалкам усю працу свае сям'і.* Частка гэтае працы не выкарыстоўваецца і прападае дарма.

Мы адчуваем абодвы віды малазямельля. У нас на аднаго вясковага жыхара прыпадае сельска-гаспадарчай зямельнай плошчы менш чым ува ўсіх іншых краінах. Па падлікам проф. Грыгор'ева мы маем у вёсцы каля 50 проц. безпрацоўя (пры нашай прымітыўнай тэхніцы). Гэтага ўжо даволі, каб праканацца ў наліччы адноснага, агульнага малазямельля дзеля ўсяго сялянства.

У гэтым агульным малазямельлі мы маем таксама і абсолютнае малазямельле дзеля значнай колькасьці нашага сялянства. Каля 25 проц. сялянскіх двароў маюць менш паўдзесяціны пахаці і сенажаці на 1 душу, гэта знача, на 1 гаспадарку менш 3 дзесяцін. На гэтай плошчы, калі яна ня блізка да гораду, весьці гаспадарку немагчыма. Пры такой плошчы зямлі гаспадару трэба йсьці або ў парабкі да больш заможнага суседа ці ў горад на заробкі, або шукаць сабе шчасьця ў чужых краёх шляхам перасяленьня.

Як бачым, у нас ёсьць адно і другое малазямельле. У паходжаньні іх ляжыць агульны корань—гэта тое, што лік насельнікаў

вёскі ўзрастае хутчэй, чым ідзе інтэнсіфікацыя сельскае гаспадаркі, пры якой ствараецца магчымасьць даць працу нарастаючым працоўным рукам і здавальняць іх жыцьцёвыя запатрэбаваньні. Але разам з гэтай агульнай прычынай малазямельля ў умовах Беларусі была і асабістая прычына, якая выклікала малазямельле некаторых груп сялянства (*абсолютнае малазямельле*). Справа ў тым, што наша вёска ў мінулым не рабіла, гэтак званых, перадзелаў зямлі паміж паасобнымі дварамі і тым самым ня прыстасоўвала колькасьць зямлі на кожны двор да зьмяняючайся колькасьці душ у гэтым двару. У нас пасьля прыгону кожны двор у адносінах да землякарыстаньня жыў сваім уласным жыцьцём і незалажна ад суседніх двароў вёскі. Зямля дзялілася толькі ў межах пасобнага двара і паміж яго членаў; гэта знача, што двары, якія атрымалі пры вызваленьні ад прыгону роўныя зямельныя плошчы, у далейшым падзяліліся на розныя па плошчы гаспадаркі ў залежнасьці ад ліку сыноў у сям'і. У выніку ўсяго гэтага зьявіліся гаспадаркі, якія дзяліліся па некалькі раз і ўтварылі такое малазямельле, пры якім ужо немагчыма пабудаваць ніякай гаспадаркі.

Цяпер паглядзім на практычны бок справы і адкажам, як змагацца з малазямельлем, каб залячыць яго балючыя праявы. Пачнем з малазямельля абсолютнага, як найбольш цяжкага і патрабуючага хутчэйшага вырашэньня. Больш 100.000 гаспадарак чакаюць у гэтым дапамогі ад Дзяржавы, як адзінай уласьніцы ўсяе зямлі.

Як-жа Дзяржава ў асобе Наркомзема хоча развязаць гэта пытаньне? Перш, зусім адхіляецца думка зьліквідаваць абсолютнае малазямельле шляхам, так званага, „чорнага перадзелу“, пры якім робіцца параўнаньне зямлі паміж дварамі ў залежнасьці ад колькасьці душ двара. Гэты шлях ня можа быць ухвален па шмат якім прычынам. Адзначым толькі дзьве.

1) „Чорным перадзелам“ мы заснавалі бы „абшчыну“, пры якой значна стрымліваецца інтэнсіфікацыя сельскае гаспадаркі а яна, як убачым далей, толькі і можа вылечыць нас на заўсёды ад агульнага малазямельля.

2) Сялянства цяпер вельмі бедна вытворчымі капіталамі (скаціна, машыны, будоўля, зваротныя сродкі і інш). Патрэбна, каб у сучасны момант гэтыя капіталы былі скарыстаны найбольш продукцыйна. „Черны перадзел“ паслабіць скарыстаньне капіталаў у іх вытворчым процэсу і тым выкліча зьніжэньне агульнай продукцыі сельскае гаспадаркі, што з усіх бакоў шкодна і дзеля Дзяржавы. Вось чаму „чорны перадзел“ у нас рашуча адхіляецца. Мы лічым, што большая частка сялянскіх двароў (65 проц.), якія маюць ад 6 да 12 дзесяцін зямлі на двор, ні ў якім разе не павінны кратацца ні зьмяншэньнем, ні павялічэньнем іх зямельнай плошчы. Гаспадаркі-ж, маючыя менш 5-6 дзесяцін на двор, атрымоўваюць ад Дзяржавы на працягу бліжэйшых двух-трох год надзяленьне зямлёю.

Паўстае пытаньне, адкуль Дзяржава вынайдзе гэтую зямлю, якой патрэбна па ўсёй Беларусі каля 300 тысяч дзесяцін? У розных мясцовасьцях будуць і розныя крыніцы. У адных мо' будзе даволі і тых кавалкаў зямлі, якія атрымаюцца пасьля абрэзкі гаспадарак, маючых больш 12 дзес. на двор пры 4-х працуючых адзінках; у другіх месцах пры гэтых кавалках будуць выкарыстаны кінутыя землі, якія цяпер

амаль зусім не скарыстоўваюцца. Калі і гэтага будзе мала, прыдзецца дзеля надзяленьня аддаць і частку дзяржаўнае зямельнае маемасьці (асяродкі панскіх маёнткаў, фонд сенажаці і інш.). Урэшце, дзе будзе патрэба, у зямельны фонд будуць перадазены плошчы з-пад пасек ці маладых зарасляй, якія лёгка абярнуць у сенажаць ці пахаць.

Мы будзем мець прыблізна каля 100 тысяч дзес. ад абрэзкі заможных гаспадарак і кінутых зямель; каля 50 тысяч ад дзяржаўнае зямельнае маемасьці і каля 150 тыс. дзес. з-пад лесу.

Асобныя акругі знаходзяцца ў розных варунках. Папярэдні падлік паказвае, што найбольш цяжка вынайсьці фонд дзеля надзяленьня ў Віцебшчыне, Аршаншчыне і Полаччыне. Дзеля двух першых акруг мо' патрэбна будзе рабіць расьсяленьне ў суседнія акругі або за межы БССР. Канчатковы адказ на гэта пытаньне мы будзем мець тады, калі акругі зробяць падрабязны падлік зямлі, як патрэбнай дзеля надзелу малазямельным і безьзямельным дваром, так і учот зямлі, якую можна атрымаць з пералічаных крыніц.

Да гэтай працы павінны быць накіраваны думкі ўсіх зямельных працаўнікоў. Яе трэба зрабіць найхутчэй і дакладна. Трэба даць малазямельным магчымасьць будаваць сваю гаспадарку. Трэба даказаць ім, што рэволюцыя ўтваралася дзеля працоўных—бедакоў, каб вывесьці іх на шлях гаспадарчага і культурнага разьвіцьця.

Я. Кісьлякоў.

---

# Найбольш разумныя формы землякарыстаньня.

Пытаньні землябудаўніцтва займаюць у нашай вёсцы вельмі значнае месца. Не адбываецца ні аднага сходу ў вёсцы ці сельсавеце, каб гэтае пытаньне не падымалася. І гэта зусім зразумела, бо кожнаму вядома, як моцна адбіваецца на гаспадарцы такое зьявішча, як 1) страшэнная цераспалосіца і вузкапалосіца, якія даходзяць у некаторых вёсках да таго, што на адну гаспадарку ў 7-8 дзесяцін прыпадае каля дваццаці палос; 2) вялікі лік межаў перашкаджае апрацоўцы поля і пашырае толькі пустазельле; 3) раскіданасьць зямель часта на некалькі вёрст прымушае амаль адракацца ад далёкіх палос; 4) цесната ў будоўлі прыводзіць да таго, што будынкі аднага двара стаяць пры самых будынках другога; 5) трохпалёўка са ўсімі яе дрэннымі вынікамі і 6) страшэннае малазямельле часткі сялян і іх жаданьне павялічыць свае мізэрныя надзелы за кошт шматзямельных ці запаснага фондаў. Загэтым і карысьць зямельнага будаўніцтва вельмі вагроміста.

Ёсьць некалькі тыпаў, альбо форм землякарыстаньня, як колектыўнае, будаўніцтва вёскі на месцы, прысёлкавая, хутарская і адрубная.

Колектыўная форма землякарыстаньня зьяўляецца найлепшай. Значэньне і выгада вялікай гаспадаркі ў параўнаньні з дробнай, пасобнай відавочна ўсім. Тут мажліва скарыстаць машыны, правілова організаваць працу, пераапрацоўку продуктаў і г. д. Загэтым, колектыўная форма павінна ўсімі сіламі пашырацца.

Што належыць да будаўніцтва вёсцы на месцы, то гэта форма таксама павінна заахвочвацца, бо ў цяперашнім стане сельскай гаспадаркі ня можна траціць значных сродкаў на расьсяленьне. Акром таго, большая частка двароў напэўна атрымае кепскія землі, дзякуючы чаму ўраджай першыя гады будзе дрэнным і гаспадарка павінна будзе цягнуць мізэрнае існаваньне. Вёскі да 50 двароў павінны быцьземляўпарадкаваны на месцы без вялікіх узрушэньняў. Гэту працу можна правесьці такім чынам. 1) Замяніць далёкія і ўклінаваўшыяся землі на больш блізкія; дзеля чаго пажадана будаваць адразу некалькі вёсак, зьвязаных паміж сабою цераспалосіцай ці агульным карыстаньнем.

Далей, шляхам замены дасягнуць таго, каб землі паасобных вёсак былі прыведзены ў найбольш прыемныя фігуры.

2) Каб уладзіць пытаньне з сялібамі, трэба пашырыць сялібную плошчу з такім замерам, каб кожнаму двару прыходзілася сялібнае зямлі ад $^1/_2$ да 1 дзес. (у залежнасьці ад жаданьня сялян і мясцовых умоў).

Пры гэтакім межаваньні большасьць двароў застаецца на месцы, а меншы лік адсунецца на палявую зямлю, дадаткова адмежаваную да сялібнай; прычым, перанясеньне будынкаў разьлічваецца на большы срок з адначасовай дапамогай перасяленцам тымі, хто застаецца на месцы.

3) Каб вызваліцца ад трохпалёўкі і вузкапалосіцы, пасьля адмежаваньня зямлі пад сялібныя месцы і вучасткі грамадзянска-культурнага значэньня (школа, хата-чытальня, комітэт узаемадапамогі і інш.), уся астатняя зямля разьбіваецца на паля з правіловым севазваротам, які выбірае агроном па згодзе з сялянамі.

Далей кожнае поле разьбіваецца на палосы з такім рахункам, каб кожны двор атрымаў па аднэй і найбольш 2 паласы ў кожным полі. Сенажаці таксама можна падзяліць на палосы, а то й заставіць для агульнага карыстаньня.

Прысёлкавая форма павінна ўжывацца ў вёсках, правышаючых 50 двароў, калі ўпарадкаваньне вёскі на месцы немажліва.

Усю працу неабходна весьці такім чынам, каб большасьць двароў заставалася на месцы, а выселіўшыхся разьбіць на прысёлкі (у кожным прысёлку ня менш 15-20 двароў).

Што датычыць хутарскае формы землякарыстаньня, то тут амаль усе двары павінны перабудоўвацца. Кожны двор павінен выкапаць сваю студню, мець свайго пастуха і г. д. Культурную працу ў такіх варунках весьці вельмі цяжка, дзеля таго, што кожны двор адрозьнены і займаецца выключна сваёй паасобнай гаспадаркай. Закупка машын і іх скарыстаньне, коопэраваньне сельскай гаспадаркі вельмі нязручна пры гэтай форме. Загэтым, хутарская форма і не зьяўляецца жаданай.

Форма адрубная таксама мала прыгодна. І тут апрацоўка поля, дагляд і папас жывёлы надта нязручны, да й самі сяляне да гэтай формы не парываюцца. Напрыклад, пры сталыпінскім землябудаўніцтве, калі хутары і адрубы пашыралі, адрубоў утварылася толькі 5%.

Такім чынам, і гэта форма павінна ўжывацца толькі ў самых выключных выпадках.

**Жылінскі.**

# КООПЕРАЦИЯ

№2 -26г

## О низовой с.-х. кооперации в Белоруссии.

С.-х. кооперация в Белоруссии начала организовываться с 1921 г. Создаваемые кооперативы по своему роду деятельности мало чем отличались от потребобществ. После декрета о кооперации (16 августа 1921 г.) с.-х. об'единения были выделены в самостоятельные союзы.

Работа с.-х. кооперации в первые годы была слаба. Цели и задачи ее многим работникам и населению были не ясны. С 1923 г., с ростом товарности крестьянского хозяйства и состояние с.-х. кооперации начало улучшаться. Начали возникать разные виды кооперативов. На 1-е января 1925 г. мы имеем уже 919 с.-х. об'единений с 48.861 членом.

Наиболее густая сеть кооперативов в Витебском округе—(253 организации), наименьшая в Борисовском (31 орг.)

На первом месте по числу организаций стоят колхозы, затем идут сельско-хозяйственные и кредитно-с.-х. товарищества. По числу членов первое место занимают кредитные т-ва (около 330 чел.). Среднее число членов на один кооператив 53 чел. Цифра более чем скромная (в Германии или Дании на один кооператив приходится свыше 2000 членов).

На 1-е января 1924 г. было 713 кооперативов с количеством членов 13091 чел. За год работы количество организаций увеличилось на 28,8 проц., а членов—на 265,5 проц. Это говорит, что кооперирование населения идет главным образом за счет укрупнения сети и что для кооперации представляет громадные плюсы.

Если считать, что каждый член-пайщик представляет одно крестьянское хозяйство, то процент кооперированных хозяйств на 1-е января 1924 г. равен 1,9 проц., а на 1-е января 1925 г.—7,4 проц.

Группировку пайщиков по социальному составу характеризуем данными по Минскому округу, где все члены кооперативов по обеспеченности их скотом в проц. отношении распределяются так:

| По обеспечен. рабоч. скотом. | Всего населения. | Членов коопер. | По обеспечен. рогат. скотом. | Всего населения | Членов коопер. |
|---|---|---|---|---|---|
| Безлошадных . | 18,2 | 26,3 | Безкоровных . | 4,1 | 10,4 |
| С 1 лошадью . | 70,8 | 62,4 | С 1 коровой . | 53,7 | 47,8 |
| С 2-мя „ . | 9,9 | 10,2 | С 2-мя „ . | 33,5 | 32,3 |
| С 3-мя „ и более . | 1,1 | 1,1 | С 3-мя „ . | 6,9 | 6,4 |
| | | | С 4-мя и более | 1,9 | 3,1 |

### Финансово-экономическое состояние с.-х. кооперации.

Средний размер пая от трех до пяти рублей. Работа организаций базируется почти исключительно на заемных средствах, размер коих колеблется от 89 до 93 проц. к сумме баланса.

Вкладные операции развиты слабо и в общей сумме оборотных средств они занимают 1,7проц.

Товары, которые проходят через низовую сеть, главным образом сельско-хозяйственного значения. Потребительские товары идут вниз и не превышают 30 проц. общего оборота. Средний годовой оборот одного кооператива по закупке равен 3.100 руб., а по продаже 2.700 р. Небольшие цифры оборота находят свое об'яснение в том, что кооперативы в своей работе постепенно отказываются от торговых операций и переходят к производственным кооперациям.

Существующие с.-х. об'единения имеют:

1. Прокатных пронктов . 30
2. Случных „ . 27
3. Зерноочистительных . 5
4. Мельниц. . . . . . 34
5. Кузнечно-слесарн. мастерских . . . . . 18
6. Кожевенных заводов . 5
7. Лесопилок . . . . . 5
8. Бетонных производств. 2
9. Черепичных произв . 1
10. Кирпичных заводов . 12
11. Производств вощины и ульев . . . . . . . 2
12. Садово-огородн х-в. . 5
13. Торфян. разработок . . 3
14. Колбасных мастерских . 5
15. Маслод.-сыровар. заводов. . . . . . . . 15
16. Картофеле-терочных заводов. . . . . . . 1

Цифры говорят о малом числе этих предприятий. По мощности они являются мелкими организациями или предприятиями и обслуживают свои нужды и нужды окрестных крестьянских дворов.

Вся сеть Белоруссии об'единена в 8-ми окружных и одном районном союзах, а последние об'единены в Центральный союз.

В Минском и Борисовском округах самостоятельных союзов с.-х. кооперации нет. Организации этих округов обслуживаются Центральным союзом непосредственно.

**А. Рыбаков.**

---

## Беліцкая малочная арцель імя Леніна.

### (Бабруйская акруга).

Беліцкая малочная арцель організавана 4-га сакавіка 1924 году на хутарох Нова-Беліцы ў 4-х вярстах ад м-ка Парычы і ў 45-ці вярстах ад г. Бабруйску. Будынак арцелі знаходзіцца на ўзьбярэжжы р. Бярэзіны.

Галоўнай прычынай дзеля організацыі арцелі зьявіўся шэраг лекцый, прачытаных агрономам 4-га агровучастку—Кузьняцовым.

Праслух ўшы агронома, сяляне з вялікім жаданьнем узяліся за організацыю малочнае арцелі. Справа пашла хутка наперад. Дзякуючы таму-ж агроному Кузьняцову арцель атрымала з агропункту ўвесь ма-

лочны інвэнтар, хаця і ў часовае карыстаньне. Хутаранін Касаткін аддаў на 3 месяцы бяз кошту будынак з 3-х пакояў (2 пад маславытворчы завод і адзін пад арцельную краму). Пакоі былі высокія, з фарбаванай падлогай і давала магчымасьць весьці працу ў бездакорнай чыстаце. Хутаранін А. Андрэяў, які вядомы на Бабруйшчыне па сваёй невялічкай, але культурнай гаспадарцы, калі быў абраны кіраўнікам арцелі, згадзіўся працаваць бяз пэнсыі, як і ўсе іншыя члены Кіраўніцтва арцелі.

Першыя сродкі арцелі склаліся з паявых складак (1 р. 10 к. з каровы) і 250 руб., пазычаных у Парыцкім крэдытовым таварыству. Пры згоднай і аб'яднанай працы удзельнікаў арцелі дзейнасьць арцелі распачалася вельмі пасьпешна.

Пры рэвізіі арцелі інструктарам Чарапком 8-га сьнежня 1924 году зарэгістраваны гэтакія факты:

1) Арцель складаецца з 60 сяброў, з якіх—

| | |
|---|---|
| сялян-земляробаў . . . . . | 51 чал. |
| савецкіх працаўнікоў . . . . | 8 „ |
| рабочых . . . . . . | 1 „ |

Па колькасьці зямлі сяляне дзеляцца:

| | |
|---|---|
| на карыстаючыхся да 3-х дзес. . . | 12 чал. |
| „ ад 3-х да 5 дес. . | 11 „ |
| „ ад 5 „ 8 „ . | 15 „ |
| „ звыш 8 „ . | 13 „ |

Па колькасьці коняй:

| | |
|---|---|
| маючых 2-е коні . . . . . | 20 „ |
| „ 1 каня . . . . . | 24 „ |
| бяз коняй . . . . . . | 7 „ |

кароў прыпісана да арцелі 88 галоў.

2) Арцель мае маславытворчы завод, арцельную краму і злучны пункт (адзін кнораз ёркшырскай пароды, адпушчаны ОКРЗО).

3) На 1-га сьнежня 1924 году ў арцелі перароблена 2630 пуд. 24. ф. малака, што дае 115 пуд. $2^{3}/_{4}$ ф. масла пры сярэднім выхадзе 22,8; гэта значна, 22,8 фунты малака даюць 1 ф. масла. За адзін пуд малака арцельшчыкі атрымоўвалі—

| | | | |
|---|---|---|---|
| У сакавіку, красавіку і траўні м-цох па 1 р. | | Жніўні . . . . | па 1 р. 15 к. |
| Чэрвені . . . . . „ | 70 к. | Верасьні . . . . | „ 1 „ — „ |
| | | Кастрычніку . . . | „ 1 „ 16 „ |
| Ліпені . . . . . „ | 77 „ | Лістападу . . . . | „ 1 „ 43 „ |

Апрача гэтага, арцельшчыкам зварачваецца здыманае малако па 30 ф. з пуда. Усяго да 1-га сьнежня арцельшчыком выплачана за малако 2.540 р. 88 кап.

| | |
|---|---|
| 4) Па 1 сьнежня ў арцельную краму паступіла тавараў на | 2954 р. 55 к. |
| „ „ спродана тавару на . . . | „ 2625 „ 4 „ |
| Увесь баланс арцелі на 1 сьнежня быў раўным . | „ 1275 „ $41^{1}/_{2}$ к. |
| Арцель атрымала прыбытку на малочнай справе . | „ 158 „ 46 „ |
| „ „ і па арцельнай краме . . | „ 225 „ 53 „ |

Організована арцель правілова і моцна.

У сучасны момант арцельлю з'організованы малочна-контрольны саюз. У гэтым саюзу абавязкі контроль-асыстэнта ўзяла на сябе Парыцкая сельска-гаспадарчая школа ў асобе тав. Крыса і яго вучняў.

Да наступнай вясны прадбачыцца пашырэньне ліку членаў арцелі ўваходам сялян акружных вёсак.

Улажыў па дакумантах член арцелі і рахавальнік **В. Навумаў.**

---

# Парады гаспадаром.

Селянін часта клапоціцца, калі ў гаспадарцы яго чаго-небудзь не хватае, або калі яму што-небудзь шкодзіць. А тымчасам бывае, што ў тым ці іншым разе лёгка сабе дапамагчы; але дзеля гэтага трэба цікавіцца кнігай, добрай часопісяй ці газэтай. Многае пазнае селянін з свае часопісі „Плуг". Пішы, чытай!

### 1. Як рабіць калёсную мазь (шмаравідла).

Звычайнае шмаравідла (калёсная мазь), якое ўжываецца да шмараваньня восяй, якое мы часта купляем у гандляроў нашых мястэчак, выробляецца даволі проста і пры гэтым можна атрымаць шмаравідла лепшае якасьці і без усялякіх шкадлівых дадаткаў, якія часта прымешваюць гандляры дзеля большае вагі.

*З чаго выробляюць калёсную мазь?*

Вядома, што шмаравідла мае ўласьцівасьць масла, лёгка размазваецца і ліпне да рук, як іншыя тлустасьці. Такім чынам, патрэбна мець пэўную тлустасьць і чым-сь яе абрабіць, каб яна ня бралася за рукі, а была мазкай. Гэтым матар'ялам зьяўляецца гашаная вапна.

Тлустасьцяй, дзеля вырабу шмаравідла ёсьць некалькі. Часьцей ужываюць поснае масла, (алей) і мінэральнае масла, якое яшчэ завецца саляровым маслам.

*Як прыгатаваць гашаную вапну?*

Бярэцца добры гатунак паленай вапны. Насыпаюць яе нятоўстым, пластам на памосьце з дошчак, паліваюць вадой з гароднай лейкі праз сітка і часта перамешваюць, каб атрымаць гашаную вапну ў выглядзе парашку. Добрая адгашаная вапна, калі сьціснуць яе рукою, ня зьбіваецца ў грудку, а рассыпаецца парашком. Такую гашаную вапну-парашок прасейваюць праз драцяное сіта, каб пазбавіцца каменьчыкаў і грудак.

Дзеля вырабу шмаравідла бяруць кадку ці чыгун, наліваюць у яго належную порцыю мінэральнага (салярóвага) масла і падсыпаюць гашанай вапны; пры гэтым раўнамерна мяшаюць, пакуль ня ўтворыцца аднолькавая маса. Атрыманую мешаніну пераціраюць праз драцяное сіта ў другую пасудзіну і адразу даліваюць патрэбную колькасьць сырога смалянага масла (алею). Далей добра мяшаюць пакуль уся рошчына не пачне гусьцець, пасьля чаго зараз-жа пакідаюць мяшаць і вымаюць мешалку. Праз 2-4 гадзіны шмаравідла адстаіцца і гатова да ўжытку. Уся праца павінна спаўняцца ў памяшканьні, дзе цяпла ня больш 12 градусаў па Рэамюру.

Вось рэцэпты шмаравідла.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Мінэральнага (саляровага) масла | . 20 кілёграмаў | 1 пуд. | 10 фун. |
| Гашанай вапны ў парашку . . | . 27 „ | 1 „ | 30 „ |
| Сырога смалянага масла . . . | . 10 „ | — | 30 „ |
| 2. Мінэральнага масла (саляровава) | . 20 кілёграмаў | 1 пуд. | 10 фун. |
| Смалянага масла . . . . . . . . | 5 „ | — | $12\frac{1}{2}$ „ |
| Гашанай вапны ў парашку . . . | $3\frac{1}{2}$ „ | — | $8\frac{3}{4}$ „ |
| Сырога смалянага масла . . . | $7\frac{1}{2}$ „ | — | $18\frac{3}{4}$ „ |

Паказаныя ў рэцэптах колькасьці матар‘ялаў можна браць ў 2, 3, 4 разы больш, або ў 2, 3, 4 менш. Рошчына павінна гусьцець праз 2-4 хвіліны. На першы раз раіў-бы браць у некалькі раз менш, пакуль зьявіцца практыка.

**2. Як выгнаць мышэй і пацукоў з хаты, сьвірна, пуні і г. д.**

Калі гэта ў хаце, то за шафамі, камодамі, скрынямі, дзе бегаюць мышы ці пацукі, а ў пуні сярод сена, у таку сярод снапоў, у сьвірне на збожжы, кублы і г. д. належыць а) або параскладаць пучкі перцавай ці лясной мяты, б) або параскладаць камочкі ваты, кудзелі ці воўны змочанай перцава-мятным алеем, які можна дастаць у кожнай аптэцы, в) або параскладаць пучкі дзікай румянкі.

Паху пералічаных рэчаў пацукі ня любяць і ўцякаюць.

**Ч. Р.**

# ЛЕСНОЕ ХОЗЯЙСТВО

## Как крестьянину добывать топливо в безлесном районе.

Оперидившие нас в сельско-хозяйственной культуре страны, как Франция, Бельгия, Германия и др., для получения древесного топлива начали усиленно заводить дровяное хозяйство, используя для этого выгона, межи, дороги, овраги, берега рек, канав и проч. Путь этот интересен и для нас.

Для того, чтобы засадить быстрорастущими деревьями выгон, дорогу, двор, усадьбы и т. д. не нужно ни больших средств, ни больших знаний; для этого нужны лишь топор, лопата и доброе желание.

Наиболее подходящими древесными породами для этой цели будут—обыкновенная верба и тополь-осокор. Лучшим материалом для кольев служат пяти-шестилетные побеги названных пород. Колья готовятся длиною в 3½ аршина и с таким рассчетом, чтобы ½ арш. закопать в землю, а 3 арш. оставить над землею. Высота надземной части кола может быть и иной, но трехаршинная лучше, так как при этой высоте скот не будет поедать молодых побегов на вершинах кольев. При заготовке кольев надо обращать внимание, чтобы концы кола, как верхний, так и нижний были бы гладкими. На нижнем конце жетателен наиболее косой отруб для увеличения корневой системы кола. Садить колья следует не ближе 6 арш. друг от друга и по возможности рядами.

При посадке землю вокруг кола плотно утаптывают. Посаженные колья в первый год дают молодые побеги до 1½ арш. В пять лет эти побеги могут назначаться в рубку для получения посадочного материала, а в 10 лет дают хорошее топливо.

Разведенные таким образом деревья используются, как безвершинники. Обычно рубят острым топором вершинные побеги дерева, а нижняя часть дерева до высоты примерно 3-х арш. оставляется. На таком высоком пне-безвершиннике быстро вырастает достаточное количество молодых побегов, которые через 5—10 лет опять вырубаются и т. д.

При правильной рубке безвершинники могут давать хороший материал для топлива в течение 100 лет.

Кроме прямой выгоды, получаемой от выращивания древесины, безвершинники имеют еще и другое значение.

Посаженные на дворах и улицах поселков и деревень они сокращают число пожаров; разведенные же по оврагам, берегам рек и канав скрепляют своими корнями почву и защищают ее от размыва; рано цветущие вербы дают обильный и ранний медосбор пчелами, наконец, серебристо-зеленая листва тополей и верб приятно ласкает глаз и украшает местность.

И. Федорако.

# ХРОНІКА

— Паміж *Белсельсаюзам*, *Наркомземам* і *Белсельбанкам* падпісана ўмова па пытаньню здавальненьня жыхарства племяннымі вытворнікамі, малочным інвэнтаром, насеньнем і мінэральным ўгнаеньнем.

У сярэднім на адну акругу будзе пастаўлена па тры племянных жэрабка. Злучныя пункты ўтвараюцца пры сельска-гаспадарчых аб'яднаньнях.

— *Кіраўніцтва Народнымі гаспадаркамі* абяцае выгадаваць дзеля злучных пунктаў 200 бугаёў узростам ад $1^1/_2$ да 2 г.

— Аддзелам жывёлаводзтва НКЗ у бягучым годзе закладзена 720 пунктаў прыкладна-паказальнага кармленьня сялянскіх кароў.

Вынікі мінулага году далі цікавыя лічбы.

| АКРУГІ. | 100 корм. адзінак да вопыту харчаваньня давалі. | | | | Тыя-ж 100 корм. адзінак пасьля вопыту давалі. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Фунт. малака. | Кошт 100 кор. адзінак Руб. | Кошт 100 кор. адзінак Коп. | Кошт 1ф. малака сабе ў кап. | Фун. малака. | Кошт 100 корм. адзінак Руб. | Кошт 100 корм. адзінак Коп. | Кошт 1ф. малака сабе ў кап. | % узросту удою кароў. |
| Бабруйская . . . | 80 | 2 | 40 | 3 | 128 | 2 | 80 | 2,19 | 60 |
| Барысаўская . . . | 115 | 3 | 6 | 2,66 | 149 | 2 | 55 | 1,07 | 29,56 |
| Віцебская . . . | 69 | 2 | 10 | 3 | 136 | 2 | 81 | 2,06 | 97,1 |
| Слуцкая . . . | 145 | 2 | 25 | 1,55 | 215 | 2 | — | 0,93 | 48,28 |
| Менская . . . | 136 | 2 | 25 | 1,65 | 192 | 2 | 7 | 1,07 | 41,18 |
| Сярэдняе . . . | 109 | 2 | 41 | 2,37 | 164 | 2 | 45 | 1,44 | 55,22 |

— *Белсельсаюзам* для вясеньняга засеву праводзіцца купля насеньня—

| | | | |
|---|---|---|---|
| выкі . . . | 15.000 п. | семя льнянога . . | 10.000 п. |
| лубіну . . . | 10.000 п. | аўса сартавога . . | 900 п. |
| цімафейкі . . | 1.500 п. | ячменю „ . . . | 200 п. |

— *Цэнтраземскладам* НКЗ куплена рознага насеньня—

канюшыны чырвонай 15.250 п.
лубіну сіняга . . 5.000 п.
сэрадэлі . . . 1.000 п. (Лічба будзе павялічана да 12.000 п.).
цімафейкі . . 3.000 п.

Гэтак-жа будзе закуплена насеньне буракоў і рознай гародніны.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Па кіраўніцтву лясамі.

**Цыркуляр № 55.**

**Аб прадоўжаньні да І сакавіка 1925 году тэрміну на водпуск лесу мясцоваму насельніцтву.**

*Усім акруговым інспэктаром лясоў і лясьнічым БССР, сьпіс Акр. і Райвыканкомам і кіраўніцтву дзярж. прыбытк. Наркомграшспраў.*
*(за 17 студзеня 1925 г. № 4. 13/7565).*

Прымаючы пад увагу бясьсьнежнасьць гэтай зімы, што прымушае мясцовых грамадзян устрымацца ад купляньня неабходных для іх лесавых матар'ялаў, кіраўніцтва лясамі даручае вам устаноўлены арт. 24 правілаў 6 кастрычніку 1924 году аб водпуску лесу мясцоваму працоўнаму насельніцтву і дзяржаўным установам, тэрмін дзеля водпуску лесу мясцоваму насельніцтву прадоўжыць да 1 сакавіка 1925 году, але прыняць меры, каб зараз-жа апавясьціць усіх грамадзян праз райвыканкомы і сельсаветы, што гэты тэрмін канчатковы і пасьля 1 сакавіка водпуск будзе спынены і астачы лесасекаў будуць прадавацца па выпярэдніцву усіх, хто жадае.

У тых выпадках, калі нельга чакаць поўнага збыту да 1 сакавіка 1925 году лесасекаў, якія прызначаны дзеля здавальненьня мясцовых патрэб, лясьнічым даецца права, водлуг згоды з РКП пачаць продаж лесу па выпярэдніцтву ўсім, хто жадае. Лес, што застаўся непрададзеным з таргоў, якія прызначаны па акругам у студзені месяцы, даецца лясьнічым прадаваць па выпярэдніцтву цэлымі дзялянкамі або падрэўна, паставіўшы нумар і раней клеймо на ўсе дрэвы, якія падлягаюць водпуску.

З прычыны важнага значэньня лесавога прыбытку для бюджэту Рэспублікі, кіраўніцтва лясамі мяркуе, што лясьнічыя прымуць усе меры да рэалізацыі непрададзеных дзялянак.

Нам. нач. кіраўніцтва лясамі *Хрушчоў*. Кіраўнік эксплёат. аддзелам *Седашоў*. Інспэктар эксплёатацыі лясоў *Хоцяновіч*.

**Цыркуляр № 41.**

**Аб звальненьні ад гэрбавого збору білетаў на выруб лесу вартасьцю ня звыш 25 руб. пры прадстаўленьні адпавядаючых засьведчаньняў РВК і сельсаветаў.**

*Усім Акрінспэктаром лясоў і лясьнічым БССР.*
*(за 29 студзеня 1925 г. № 4—а/8810).*

Падатковае кіраўніцтва Наркомграшспраў Беларусі зваротам сваім за 6/XII—1924 году, № 12270 растлумачыла, што згодна арт. 4, № 14 падрабязовага альфабэт пераліку білеты на рубку лесу вартасьцю ня звыш 25 руб., што выдаюцца лясовым ведамствам сялянам, якія вядуць сельскую гаспадарку, пры умове прадстаўленьня засьведчаньняў ВВК-аў, што лес набываецца дзеля ўласных патрэб сялян, зволены ад гэрбавага збору, прычым паказаны засьведчаньні ВЦК-аў таксама вольны ад гэрбавага збору.

Тая акалічнасьць, што ўсе функцыі ВВК-аў перашлі да ведама раённых сельсаветаў і паказаныя засьведчаньні аб патрэбнасьці ў лесе

ў гэты час выдаюцца сельсаветамі, ня можа рабіць уплыў на тыя ці іншыя льготы па гэрбавому збору, якія дадзены паасобным асобам.

Дзеля гэтага лесасечныя білеты на суму да 25 руб., пры умове прадстаўленьня засьведчаньняў сельсаветаў аб патрэбнасьці ў лесе, ад гэрбавога збору вольны, засьведчаньні сельсаветаў таксама зволены ад гэрбавага збору.

Усё, што выш выкладзена, кіраўніцтва лясамі прапануе прыняць да ведама і няўхільнага выкананьня.

Кіраўнік канцылярыі *Бараноўскі*. Начальнік кіраўлясамі *Скамарохаў*.

## Па кіраўніцтву Сельскай Гаспадаркі.

### О популярызацыі паміж сялянства працы і дасягненьняў дасьледчых Станцый.

*Усім Дасьледчым установам НКЗБ.*

*(За 7 студзеня 1925 году № 2-Д 6707).*

У зьвязку з тым, што да сучаснага моманту дасьледчыя установы прымалі нязначны удзел у популярызацыі сваёй працы і дасягненьняў сярод акружаючага гаспадарчага жыхарства, што часта адзначвалася ў пэрыодычным друку і што мела нежаданыя для дасьледчых устаноў вынікі і нездавальненьні на зьездах, конфэрэнцыях і г. д. За атсутнасьцю сувязі іх з жыцьцём. Наркомзем дзеля папаўненьня гэтай значнай абмылкі ў працы дасьледчых устаноў гэтым прапануе:

Скарыстаць продукцыйна дзеля мэт популярызацыі прац і дасягненьняў дасьледчых устаноў, астатні да пачатку веснавой палявой працы час (як больш вольны); дзеля гэтага а) сярод акружаючага жыхарства правесьці шэраг чытаньняў і гутарак; б) прыняць дзейны удзел у адбываючыхся на мясцох с.-г. курсах, дзеля таго ўвайсьці ў сувязь з мясцовымі агропрацаўнікамі, ОКРЗО ці агроўчасткам; Менскай Балотнай дасьледчай станцыі прыняць удзел у абмяркованых да правядзеньня мэліорацыйных курсах у Менскай акрузе, в) правесьці пры Дасьледчых установах шырокія сялянскія конфэрэнцыі з разьвязаньнем на іх усіх пытаньняў, цікавячых мясцовую сялянскую гаспадарку; г) зьмясьціць у пэрыодычным друку шэраг артыкулаў і заметак па пытаньням, выяўляючым працу Дасьледчых устаноў; д) даць весткі (ў лічбеннай форме) колькі раней праведзена чытаньняў, гутарак, конфэрэнцый, зьмешчана артыкулаў у пэрыодычным друку і г. д. за час ад кастрычніка 1923 году да 1-га студзеня 1925 году; е) пэрыодычна даваць весткі дасьледчаму аддзелу НКЗ аб спаўняемай працы ў гэтым напрамку.

Атрыманьне гэтага цыркуляру паведаміць кіраўніцтва сельскае гаспадаркі. Першатвор падпісалі: Нам. Наркомзема—*Русецкі*. Нач. Кіраўніцтва Сельскае гаспадаркі—*Рэмізаў*. Загадчык Дасьледчага Аддзелу—*Казлоўскі*.

**Выданьне Наркомзема і Белсельсаюза.**

**Адк. рэд. Зьм. Прышчэпаў.**

**Рэд. кол.** *Э. Русецкі.* *А. Смоліч.* *Сьц. Тупяневіч.*